ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 52 (2454) 28 снежня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.



# З НОВЫМ ГОДАМ!

АЗІРАЮЧЫСЯ НА МІНУЛАЕ, БУДУЧЫНІ НЕ ЎБАЧЫШ

## ЦІ ВАРТА "ДЗЯКУЙ" КЛАСЦІ Ў КІШЭНЮ?

**У сваіх марах людзі звычайна імкнуцца зазірнуць у будучыню. Можа, таму і Новы год -- адно з найбольш любімых святаў: пад бой гадзінніка, з кілішкам у руках мы з усмешкай развітваемся з днём учарашнім і з надзеяй глядзім у заўтрашні. Але, як вядома, з кожнага правіла бывае выключэнне, да якога, здаецца, многія нашы суграмадзяне і адносяцца. Усё часцей накіроўваюць яны свой позірк у мінулае з яўным жаданнем зноў апынуцца ў тым часе, дзе засталася маладосць многіх з іх, а з ёю бадзёрыя маршы святочных дэманстрацый, кватэры, мэбля, аўтамабілі ад заводскіх прафкомаў, партыйныя сходы, граматы за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве...**

-- А я нічога дрэннага не бачыла і не бачу (хаця ўжо не першы год працую на заводзе) у тым, што праца людзей, акрамя матэрыяльных, заахвочваецца і нейкімі маральнымі сродкамі, напрыклад, тымі ж граматамі, медалямі або калі партрэты лепшых працаўнікоў вывешваюцца на Дошцы гонару. Так, усё гэта павінна быць толькі дадаткам да матэрыяльнага ўзнагароджання (дзеля чаго, уласна, і працуем). Але ...ім не лішнім дадаткам, -- гаворыць ...шыня прафсаюзнага камітэта Мінскага завода аўтаматычных ліній Валянціна Угольнік.

-- Нядаўна ў мяне адбылася размова з адным нашым заводскім рабочым, -- працягвае яна. -- Прыйшоў ён злосны, раздражнёны, агрэсіўны, нара...яў на ўсё і на ўсіх -- не пералічыць...ўнае ж -- заработная плата. Я, дарэчы, яго абурэнне не толькі разумею, але і падзяляю: ён кваліфікаваны спецыяліст, які мае сталую працу на заводзе, не ў стане пракарміць сям'ю. Тым не менш, спрабую неяк астудзіць пыл, кажу, што мы цэнім яго працу і ўдзячны яму за яе. А ў адказ чую: "Навошта мне вашае "дзякуй", яго ў кішэню не пакладзеш".

Ведаю, у наш жорсткі час усё часцей дзейнічае правіла: кожны -- сам за сябе. Але мы ўсе такія розныя, і я не магу цалкам пагадзіцца з ім. Прызнаюся шчыра, ува мне, як, ведаю, і ў многіх маіх калегах на прадпрыемстве, жыве туга па страчанаму калектывізму, па, не пабаюся гэтага высокага вызначэння, духоўнасці мінулых гадоў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПОЛАЦКА-КРЫЎСКАЯ ТЭОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І КУЛЬТУРЫ

## НЕ З АБСОХШЫХ ГАЛІН

Ад нашых продкаў крывічоў пачынаецца радавод беларускага народа, яго дзяржаўнасць і культура. Гэты факт агульнавядомы, як і тое, што эпіцэнтрам крывіцкай каланізацыі цяперашніх Беларусі, паўночна-заходняй Расіі, летапіснай Літвы і Прыбалтыкі былі Полацкае княства і Полацк (упамінаецца ў летапісах з 863 года). Аўтары "Аповесці мінулых гадоў", упісваючы ўсходніх славян у кантэкст біблейскага расцярушвання "нашчадкаў Іафета", паведамляюць пра нашыя плямёны: "А іншыя селі паміж Прыпяццю і Дзвіною і называліся дрыгавічамі, а іншыя селі на Дзвіне і называліся палачанамі, паводле рэчкі,

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## А МЕТРО БУДУЕЦЦА...



Праходчык Анатоль МЯТЛІЦКІ на адным з будаўнічых участкаў метрапалітэна.

*(Фотарэпартаж "А метро будуецца..." змешчаны на 3-й стар.).*

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЮБІЛЕЙ БДПА*




Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія адзначыла сваё 75-годдзе. На ўрачыстасцях, якія адбыліся 20 снежня, прысутнічаў і выступіў з прамовай Прэзідэнт Беларусі. А. Лукашэнка ўручыў юбіляру Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь. Сваім распараджэннем Мінфіну Прэзідэнт выдзеліў ужо ў гэтым годзе БДПА са свайго рэзервовага фонду 2,5 мільярда рублёў на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы акадэміі.

НА ЗДЫМКУ: на юбілеі БДПА выступае Прэзідэнт Беларусі А. ЛУКАШЭНКА.

*ПАСЛЯ ПАРАЖЭННЯ*

## НА ШТО РАЗЛІЧВАЕ БНФ

Недасканалая выбарчая сістэма і недэмакратычныя ўмовы правядзення самой кампаніі -- гэтыя дзве акалічнасці, на думку членаў сойма БНФ, сталі асноўнымі прычынамі таго, што ніводзін з 69 вылучаных ад гэтай партыі кандыдатаў не здолеў атрымаць мандат дэпутата Вярхоўнага Савета XIII склікання.

Нягледзячы на адчувальнае паражэнне на выбарах, лідэры БНФ разам з тым не лічаць іх вынікі цалкам правільнымі. Тлумачэнні гэтаму наступныя. Па-першае, Народны фронт здолеў захаваць і нават, у параўнанні з вясной, павялічыць свой электарат [як засведчылі выбары двух апошніх гадоў, БНФ трывала аддаюць галасы 700--800 тысяч выбаршчыкаў]. Па-другое, у парламент прайшоў шэраг дэпутатаў, якія будуць адстойваць дзяржаўны суверэнітэт і нацыянальныя інтарэсы Беларусі. Нарэшце, галоўным поспехам у БНФ лічаць сам факт абрання ў нашай краіне парламента. Гэта, па словах З.Пазьняка, стане "перашкодай на шляху спаўзання Беларусі да дыктатуры".

*СВАБОДНЫЯ ПРАФСАЮЗЫ*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ЎРАДУ

Кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза Беларусі прыняло рашэнне аб уступленні ў калектыўную спрэчку з урадам.

Адно з галоўных патрабаванняў, якія прафсаюзы прад'яўляюць кіраўніцтву рэспублікі, -- спыненне беззаконня ў адносінах да ўдзельнікаў жнівеньскай забастоўкі на Мінскім метрапалітэне. Як паведаміў БелаПАН кіраўнік СПБ Генадзь Быкаў, звольненыя машыністы электрадэпо "Маскоўскае" так і не аднаўлены на працы. Суд, які разглядаў іх іск да адміністрацыі метро, па сутнасці справы, ператварыўся ў палітычны працэс. Акрамя таго, прытрымліваючыся тайнага распараджэння зверху, гэтых людзей не прымаюць на працу ў іншыя арганізацыі. Адчай іх дайшоў да такой мяжы, што, паводле слоў Быкава, пяцёра машыністаў пагражаюць наладзіць акт самаспальвання перад Домам урада.

Іншыя патрабаванні, што выказваюцца СПБ, тычацца выплаты запазычанасці па заработнай плаце, стварэння нармальных умоў для функцыянавання прадпрыемстваў і гэтак далей. У бліжэйшыя дні ўрад будзе афіцыйна паведамлены аб рашэнні Свабоднага прафсаюза ўступіць з ім у калектыўную спрэчку. Калі ўлады не пойдуць на перагаворы, заявіў Г.Быкаў, СПБ пачне падрыхтоўку да агульнарэспубліканскай забастоўкі. Не выключана, што яна будзе праведзена адначасова з агульнанацыянальнай забастоўкай, якую рыхтуе Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці.

*ГАСТРОЛІ КУПАЛАЎЦАЎ*

## ТРЫУМФ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Дон Жуан вяртаецца з вайны" завяршыў сваё сцэнічнае жыццё пад апладысменты французскіх гледачоў. Рэжысёр пастаноўкі Стэфані Лоік зрабіла ўсё, каб яе дзецішча ўбачылі на роднай зямлі ў Латарынгіі, а купалаўцам заставалася толькі пакарыць французаў сваёй ігрой. Мяркуючы па ўсім, яны гэтага дабіліся.

На скліканай пасля вяртання дамоў прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы перад журналістамі выказаліся перапоўненыя ўражаннямі артысты і дырэктар тэатра Іван Вашкевіч. Яны пазнаёмілі з водгукамі французаў на ігру акцёраў, расказалі аб самой паездцы.

Усе газеты Латарынгіі выступілі з хвалебнымі рэцэнзіямі, сутнасць якіх, паводле слоў удзельнікаў гастроляў, можна выказаць загалоўкам аднаго з артыкулаў -- "Трыумф беларускай мовы". Для французаў, якія мала ведаюць пра Беларусь, чаканне новага тэатра ўяўлялася сустрэчай з адным з расійскіх калектываў. Але першыя спектаклі на сцэне Драматычнага рэгіянальнага цэнтра горада Цьянвіля сталі для іх знаёмствам з новай культурай, а беларуская мова зачаравала прыгажосцю і мелодыкай. Зрэшты, знаёмства было ўзаемным. Купалаўцы ўпершыню гастраліравалі ў Францыі, і знаходжанне іх там было даволі працяглым -- 24 дні. За гэты час адбыліся шматлікія сустрэчы з гледачамі, тэле- і радыёінтэрв'ю, паездкі па краіне. Убачылі нашы акцёры і ігру парыжскіх калег.

*ДЭМАГРАФІЧНЫ ПРАГНОЗ*

## КАЛІ ЗНІКНЕ АПОШНІ БЕЛАРУС?

У год насельніцтва Беларусі змяншаецца амаль на 90 тысяч чалавек. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, то праз 111 гадоў, да 2105 года, з твару зямлі можа знікнуць апошні жыхар Беларусі, як некалі зніклі скіфы, хазары, сарматы, урартыйцы, кімерыйцы, мая, кічэ, мам, цонталь, чоль і іншыя народы.

Паводле даных медыкаў, да 2000 года кожны другі жыхар Беларусі можа быць хворы на анкалагічныя захворванні. Калі, не дай Бог, гэтыя прагнозы спраўдзяцца, то працэс вымірання беларускага народа, што пачаўся ў 1993 годзе, зменіцца працэсам яго гібелі.

*РАБАЎНІЦТВА*

## НА 1 МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ

Імя рэчыцкага мастака Аляксандра Ісачова сёння вядомае больш за мяжой, чым у Беларусі. "Нонканфарміст", "дысідэнт" пры савецкай уладзе, што заўчасна звяло яго ў магілу, ён стаў вядомы беларускім аматарам мастацтва толькі з пачаткам "перабудовы". І вось новы ўдар лёсу. З кватэры Ісачова выкрадзена 14 яго карцін. Чацвёра злачынцаў праніклі ў дом, звязалі непаўналетнюю дачку мастака і вынеслі палотны, што мелі нацыянальную каштоўнасць. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА прадстаўнікі праваахоўных органаў, агульная сума ўкрадзенага складае як мінімум мільён долараў.

*РЭСТАРАН "НАДЗЕЯ"*



У раёне прамысловай Маркаўшчыны ў Віцебску адкрыўся рэстаран "Надзея". Ён разлічаны на абслугоўванне людзей з розным дастаткам і густам. Тут будуць праводзіцца заказныя вечары, банкеты і іншыя мерапрыемствы. На першым паверсе будынка размясціўся бар на 24 месцы, на другім -- зала на 60 месцаў. Асартымент рэстарана разнастайны, у асноўным гэта стравы беларускай кухні.

НА ЗДЫМКУ: у адной з залаў рэстарана.

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## НА КЕНСІНГТАН-КОРТ

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь цяпер будзе развявацца над гістарычным будынкам па Кенсінгтан-Корт, 6, у брытанскай сталіцы. З 18 снежня 1995 года тут працуе беларускае пасольства.

Удзел у цырымоніі адкрыцця пасольства прынялі міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько, дзяржаўны міністр замежных спраў і па справах Садружнасці Вялікабрытаніі Нікалас Бонсар, прадстаўнікі Усходнееўрапейскага дэпартамента англійскага МЗС, паслы замежных дзяржаў, акрэдытаваныя ў Лондане.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства нашай дзяржавы, выступаючы перад гасцямі, адзначыў важнасць гэтай падзеі. Паводле яго слоў, у беларуска-брытанскіх двухбаковых адносінаў вялікія рэзервы, і іх трэба дынамічна выкарыстоўваць.

Беларусам, што жывуць у Вялікабрытаніі, нагадваем яшчэ раз адрас нашага пасольства: Кенсінгтан-Корт, 6.

*З ПАЗІЦЫЙ ГОДА 1995-га*

## ТЭЛЕФОН — НЯЗБЫЎНАЯ МАРА

Паводле даных Міністэрства сувязі і інфарматыкі, за дзевяць месяцаў бягучага года на Беларусі было ўстаноўлена 49 800 тэлефонаў. Многа гэта ці мала, можна меркаваць па наступнаму: не так даўно прыкладна такая ж лічба называлася ў адносінах да аднаго Мінска.

На жаль, спадзяванні на тое, што ў бліжэйшы час у рэспубліцы знікнуць шматгадовыя чэргі на ўстаноўку тэлефонаў, можна лічыць марнымі. Так, на пачатак 1995 года колькасць грамадзян, якія выказалі намер атрымаць абанентны нумар, перавышала 700 тысяч. Паводле прагнозу, на пачатак 1996 года чарга павялічыцца.

*БАЛАНС*

## ДАХОДЫ І РАСХОДЫ

Грашовыя даходы насельніцтва рэспублікі ў студзені-лістападзе склалі 61 трыльён рублёў і павялічыліся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 7,6 раза. Аднак спажывецкія цэны на тавары і паслугі выраслі за гэты час у 9,7 раза.

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, спажывецкія расходы грамадзян, такім чынам, склалі 47 трыльёнаў рублёў і павялічыліся ў 7 разоў. Выраслі таксама за 10 месяцаў выдаткі насельніцтва на абавязковыя плацяжы і добраахвотныя ўзносы. Гэта каштавала яму 4 трыльёны рублёў.

Тым не менш уклады зберажэнняў грамадзян за гэты час павялічыліся да аналагічнага ўзроўню мінулага года ў 14,3 раза. Намнога часцей людзі пачалі купляць валюту, набываць дэпазітныя сертыфікаты і каштоўныя паперы.

*ДЗЕЛЯ ЗБАВЕННЯ ДУШЫ*

## СПОВЕДЗЬ ЗА КРАТАМІ

Перад Калядамі прыхаджане Фарнага касцёла ў Гродне і іншых размешчаных у абласным цэнтры храмаў перадалі зняволеным мясцовай турмы нядарагія падарункі -- ласункі, прадукты харчавання.

Каменціруючы гэты факт па просьбе карэспандэнта БЕЛТА, намеснік начальніка Гродзенскай папраўча-працоўнай установы Мікалай Аберган сказаў, што менавіта свяшчэнаслужыцелі дапамагаюць тым, хто адбывае пакаранне, набыць душэўны спакой. Ён адзначыў, што сустрэчы з праваслаўнымі і каталіцкімі свяшчэннікамі праводзяцца цяпер двойчы ў тыдзень. Для тых, хто па нейкіх прычынах не можа на іх прысутнічаць, арганізуецца трансляцыя запісаных на плёнку гутарак праз мясцовую радыёсетку. Розныя рэлігійныя канфесіі прывозяць зняволеным духоўную літаратуру. Дабрачынную дапамогу аказвае і каталіцкая арганізацыя "Карытас".

*НА МЯЖЫ*

## АДНАВІЛІ КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Дагавор аб культурным супрацоўніцтве падпісалі прадстаўнікі двух прыгранічных раёнаў -- Воранаўскага Гродзенскай вобласці і Шальчынінкайскага з Літвы.

Пасля некаторага перапынку, што ўзнік па вядомых прычынах, бакі вырашылі аднавіць прыемныя і карысныя адносіны -- праводзіць, як раней, абмен самадзейнымі мастацкімі калектывамі, арганізоўваць сумесныя святы і іншыя цікавыя мерапрыемствы. Да падпісання дагавара, якое адбылося ў Воранаве, быў прымеркаваны канцэрт літоўскага ансамбля песні і танца "Сальчане" з Шальчынінкая. Некалькі тыдняў таму ў суседзяў у Літве пабывалі з канцэртам удзельнікі папулярнага народнага ансамбля "Лявоны" з Воранава.



З НОВЫМ ГОДАМ!

# А МЕТРО БУДУЕЦЦА...







**Здаецца, зусім нядаўна было пачата будаўніцтва Мінскага метро ўздоўж галоўнай магістралі горада -- праспекта Францыска Скарыны.**

**Сёння на гэтай лініі працуюць дзевяць станцый метрапалітэна.**

**Адгаліноўваючыся, лініі метро праляглі ў густанаселеныя раёны беларускай сталіцы ад праспекта Пушкіна да трактарнага завода. Але на гэтым будаўніцтва не скончылася.**

**Метрабудаўнікі ўжо дабраліся да аўтамабільнага завода. Ні днём, ні ноччу не спыняюцца работы ў раёне станцыі "Аўтазаводская". Тут працуюць рабочыя будаўнічамантажнага ўпраўлення N 1 Мінскага метрабуда, якому ў адыходзячым годзе споўнілася пятнаццаць гадоў. За гэты час пабудавана сем станцый і пракладзена каля трынаццаці кіламетраў падземных магістралей, па якіх у блакітных вагонах падземкі ўжо перавезены многія мільёны мінчан і гасцей беларускай сталіцы.**

**Наш фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР зрабіў здымкі на будаўніцтве станцыі метро "Аўтазаводская". Сярод тых, хто тут працуе, слесар-мантажнік Анатоль БЛАХІН і начальнік участка Міхаіл КАЗАК.**







# ЦІ ВАРТА "ДЗЯКУЙ" КЛАСЦІ Ў КІШЭНЮ?

**(Заканчэнне. Пачатак нна 1-й стар.)**

Напрыклад, у нас сёння практычна ўжо не стала сумесных святкаванняў, цікавых сустрэч, якія калісьці традыцыйна называліся "агеньчыкамі", а цяпер залічаны амаль да перажыткаў. Але колькі часу таму да мяне ў прафком спецыяльна заходзілі завадчане даведацца, ці не забылі мы пра Новы год, маўляў, трэба арганізаваць святочны вечар. Такі, як калісьці - для ўсяго калектыву.

Не буду спрачацца, і раней жыццё наша было далёкае ад ідэальнага. Занадта ўжо імкнуліся да масавасці ва ўсім, вельмі многа насаджалі палітыкі нават у самых "мірных" справах. Правільна, ад такіх падыходаў проста неабходна адмаўляцца. Але, здаецца, з вадой выплюхнулі і дзіця. Бо нічога -- нічога! -- не атрымалі ўзамен.

На вытворчасці цяпер і холадна, і галадна -- у прамым сэнсе слова. Рабочыя, інжынеры па некалькі месяцаў не могуць атрымаць нават тую мізэрную зарплату, якую сёння плаціць за іх працу дзяржава. Калі не паспрабаваць неяк эмацыянальна падтрымаць людзей, хоць крыху аслабіць псіхалагічны прэсінг, многія не вытрымаюць, зламаюцца. Мы ўжо бачым, як сталі значна больш халоднымі ўзаемаадносіны паміж самімі работнікамі. Усё болей і болей п'янства -- а што яшчэ рабіць, калі няма нармальнай работы? На нашым заводзе досыць складанае абсталяванне, на якім працавалі проста унікальныя спецыялісты. А што цяпер? Гэтыя ж рабочыя з-за халатнасці і абыякавасці літаральна ламаюць тыя станкі, назіраюцца праявы сапраўднай дэградацыі.

На жаль, дзеянні кіраўніцтва (маю на ўвазе ўрадавы ўзровень) не надаюць аптымізму. Будучыня многіх з нас няясная або і проста змрочная, таму не дзіўна, калі значная частка жыхароў Беларусі згадвае савецкія часы, як светлыя і амаль шчаслівыя.

**КАМЕНТАРЫЙ САЦЫЁЛАГА**

**Аляксандр ЛІМАРЭНКА. Мы — індустрыяльнае грамадства з элементамі даіндустрыяльнай культры, якія самі па сабе вельмі прывабныя. Напрыклад, возьмем такі пастулат: у двары для мяне няма нічога даражэйшага за сяброўства. Пад ім маглі б падпісацца многія з нас. Але для сучаснай культуры, прагматычнай, рацыяналізаванай, якраз характэрнае іншае: сяброўства сяброўствам, а тытунец асобна. Або: сёння ты мне білет купіш, заўтра -- я табе. Мы ж па-ранейшаму з гатоўнасцю пазычаем адзін аднаму грошы, дапамагаем, культывуем калектывісцкія каштоўнасці, якія самі па сабе сапраўды прыгожыя, але не адпавядаюць паводзінам сучаснай індустрыяльнай супольнасці.**

**Трэба адзначыць: нашы савецкія прамысловыя прадпрыемствы таксама былі не такімі, як паўсюль. Іх можна назваць "непрастрэльваемай прасторай", што абараняла простага чалавека ад разнастайных сацыяльных бед і праблем. Там можна было знайсці мужа ці жонку. Калі ты п'яніца, заводскі калектыў зоймецца перавыхаваннем, калі стаіш на чарзе, гадоў праз дзесяць, але атрымаеш бясплатную кватэру. Усё гэта таксама не з'яўляецца функцыямі сучасных інстытутаў.**

**У той жа час такога кшталту ўзаемаадносіны па-свойму нядрэнныя, і людзі прывыклі да іх. Таму, калі я чую папулярную шмат год у краіне песню пра "родную улицу" ці "заводскую проходную, что в люди вывела меня", я ёй веру.**

**Сапраўды, прадпрыемствы станавіліся другім домам. Зараз яны такімі заставацца не могуць. У японцаў, праўда, захоўваецца сістэма пажыццёвага найму, але і там яна ўжо робіцца анахранізмам і адыходзіць.**

**Нашым грамадзянам трэба зразумець: так, як было, больш не будзе. Пытанне толькі ў тым, дзе яны ў такім выпадку могуць атрымаць сацыяльную абарону. Не ў цяперашнім жа райвыканкоме, сапраўды... Старое рушыцца -- новае не ствараецца, адсюль і праблемы, увогуле непазбежныя пры той глабальнай перабудове, якую мы перажываем.**

Так ужо сталася, што некалькі пакаленняў людзей у нашай краіне нарадзіліся, выраслі пры савецкай уладзе. Ніколі нічога іншага, акрама савецкай рэчаіснасці, яны не бачылі, бо "па розных там заграніцах" таксама не ездзілі, хіба што ў тэлеклубе падарожнікаў па афрыканскай саване ці джунглях "пройдуцца". Сёння жыццё многіх сапраўды моцна пагоршылася, і выйсця не бачна. А таму не віна наша, а бяда, што іншыя сумуюць па мінулым жыцці. Але той сум -- своеасаблівая надзея на лепшае, а лепшае, як бы там ні было, заўсёды асацыіруецца з будучыняй, якая ёсць ва ўсіх і заўсёды.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ШТО ЧАКАЕ НАШУ КРАІНУ Ў XXI СТАГОДДЗІ

**З ДЭПУТАТАМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПЯТРОМ КРАЎЧАНКАМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ІНТЭРФАКСА" ВЯЧАСЛАЎ ЗЯНЬКОВІЧ**

**-- Пётр Кузьміч! У свой час вы стаялі ля руля знешнепалітычнага ведамства краіны, якая стала суверэннай. З пазіцыі сённяшняга дня наколькі, на ваш погляд, правільным быў стратэгічны выбар Беларусі!**

-- Я не выпадкова адсутнічаў у красавіку 1994 года ў Маскве, калі ранейшым кіраўніцтвам рэспублікі падпісваўся пакет пагадненняў аб стварэнні так званага грашовага саюза з Расіяй. Будучы перакананым у тым, што пэўная, згодна з дакументамі, страта самастойнасці Нацыянальнага банка Беларусі азначала паглынанне Расіяй нашай дзяржавы, адмежаваўся ад удзелу ў перагаворным працэсе.

У пачатку 90-х гадоў, пасля распаду СССР, мне было ясна, што падтрымка Захадам Беларусі -- краіны, што да сёння не вызначылася ў сваім стратэгічным курсе, не больш чым утопія.

З набыццём незалежнасці Беларусь стала перад выбарам: па якому шляху развівацца? Разгледзім два варыянты развіцця падзей.

Першы. Беларусь "кідаецца ў абдымкі Расіі". Такі шлях адразу стаў непрымальным па шэрагу аб'ектыўных прычын, і ў першую чаргу ў сілу таго, што сама Расія не верыла ў такую магчымасць. У адпаведнасці з канкрэтнымі распараджэннямі расійскага кіраўніцтва віцэ-прэм'ер А. Шохін і цэлая група рыначнікаў упэўнена тарпедавалі інтэграцыйныя ініцыятывы.

Другі варыянт. Назавём яго "празаходнім", калі Беларусь "кідаецца ў абдымкі Захаду". Прыхільнікамі такога шляху былі былы кіраўнік парламента С. Шушкевіч і некаторыя іншыя вядомыя ў рэспубліцы палітыкі.

Размаўляючы, напрыклад, з былым прэзідэнтам Польшчы Л. Валенсай, я зразумеў, што Захад не зробіць для рэспублік былога СССР таго, што зрабіў для дзяржаў Усходняй Еўропы, а ў прыватнасці для той жа Польшчы. Палякам даравалі значную частку знешняга доўгу, які ў канцы 80-х гадоў складаў каля 38 мільярдаў долараў ЗША. Па лініі Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў у 1994 годзе Польшчы павялічылі квоты для рэалізацыі на Захадзе прамысловых тавараў. І, нягледзячы на тактыку масіраванай фінансава-эканамічнай дапамогі, большасць насельніцтва Польшчы аказалася незадаволеным Захадам, што пацвярджаецца ў тым ліку і вынікамі прэзідэнцкіх выбараў, якія нядаўна прайшлі ў гэтай краіне.

Калі мы гавор‥м, што дапамога Захаду была далёка не адэкватнай чаканням "сярэдняга" чалавека ў краінах былога сацыялістычнага лагера, то пра што можна гаварыць у адносінах да Беларусі? Я ніколі не верыў і не паверу, што Захад зоймецца шырокамаштабнымі інвестыцыямі ў Беларусь. На Захадзе не вераць у Беларусь як у самастойную дзяржаву, а разглядаюць яе ў якасці правінцыі Расіі, як тэрыторыю, размешчаную ў зоне нацыянальных інтарэсаў гэтай краіны. Таму замежны капітал будзе пранікаць у Беларусь вельмі асцярожна, нават калі мы кардынальна зменім дзеючае заканадаўства і зробім зямлю аб'ектам куплі-продажу.

Паміж нацыянальным дзяржаўным будаўніцтвам і шырокамаштабнымі інвестыцыямі існуе прамая ўзаемасувязь. Бытуе думка, што дзеля прыцягнення буйных інвестыцый трэба стаць правінцыяй Расіі. Але давайце параўнаем аб'ёмы інвестыцый Захаду ў гэтую і іншыя краіны свету. Аб'ём замежных інвестыцый у эканоміку Расіі ў 1994 годзе склаў 4 мільярды долараў ЗША. Для параўнання: у маленькую Венгрыю -- 10--12 мільярдаў, у Кітай -- 96 мільярдаў. Гэтым усё сказана. Да таго ж зусім відавочна, што ў выпадку аб'яднання Расіі і Беларусі Масква не будзе асыпаць інвестыцыйнай міласэрнасцю сваю паўднёва-заходнюю правінцыю.

**-- Вы лічыце непадыходзячымі для Беларусі абодва варыянты стратэгічнага курсу -- як "праўсходні", так і "празаходні". Што ж, па-вашаму, рабіць рэспубліцы!**

-- Для сябе асабіста я даўным-даўно адказаў на гэтае пытанне. Яшчэ ў 1992 годзе, выступаючы з трыбуны ААН, выказаў ідэю, якая, на жаль, не была своечасова заўважана, нягледзячы на тое, што яна сотні разоў гучала ў ходзе маіх сустрэч з прадстаўнікамі замежных краін. Сутнасць гэтай ідэі -- фарміраванне Усходнееўрапейскага эканамічнага супольніцтва -- праобраза Агульнага рынку, але на Усходзе.

Захад нас з нашымі таварамі на сваіх рынках не чакае. Мы павінны зразумець, што ў бліжэйшыя 10--15 год Беларусь не зможа туды інтэгравацца, нешта падобнае трэба стварыць на Усходзе. Беларусь, Украіна, Расія і, магчыма, Казахстан павінны сфарміраваць нейкае "перадрыначнае" супольніцтва. Тады на Захадзе будзе існаваць стандарт рыначных адносін, які склаўся на працягу дзесяцігоддзяў, а на Усходзе ён будзе толькі складвацца.

На працягу 10--15 гадоў Беларусь, Расія і Украіна разам змогуць значна прасунуцца на шляху рыначных пераўтварэнняў. Жадае Украіна гэтага ці не, але думаю, што прынцыпы эканамічнага самавыжывання прымусяць яе больш актыўна супрацоўнічаць з Беларуссю і Расіяй.

**-- Помніцца, будучы міністрам, вы неаднаразова заяўлялі аб магчымасці спыне‥я ліквідацыі ўзбраенняў па Дагавору АБСЕ. Чаму гэта не было зроблена ў той час!**

-- Сапраўды, выступаючы ў многіх еўрапейскіх сталіцах (Афінах, Рыме, Брусэлі), я ў самай вострай форме крытыкаваў краіны НАТА за тое, што яны не дапамагаюць Беларусі знішчаць лішкі баявой тэхнікі па Дагавору аб скарачэнні звычайных узброеных сіл у Еўропе (Венскі дагавор). Папярэджваў НАТА, што адсутнасць матэрыяльнай падтрымкі вымусіць рэспубліку згарнуць ліквідацыйныя праграмы.

Тым не менш, лічу памылковым прынятае ў лютым рашэнне аб прыпыненні на некалькі месяцаў знішчэння танкаў і бронемашын. Гэтая паўза не прынесла міжнародных дывідэндаў нашай рэспубліцы. Лічу гэта вялікім пралікам палітычнага кіраўніцтва краіны.

(Заканчэнне на 7-й стар.).




**НЕПРЫКМЕТНАЯ І СТРАШНАЯ ВАЙНА**

## 2. ЦІМАШЭНКА СУПРАЦЬ МАНЕРГЕЙМА

# РЭКВІЕМ КАРЭЛЬСКІХ БАЛОТ

Такім чынам, гісторыя адбылася. Выбар быў зроблены, "той, хто выняў меч, ды не забіцца".

Зрэшты, ніхто асабліва не баяўся. Ні камбаты, якія паблажліва разглядвалі ў стэрэатрубы нязначныя ланцужкі фінскіх дзотаў на тым беразе Сестры, ні людзі з шытымі золатам зоркамі пятліц у цішы крамлёўскіх кабінетаў. Ні Фінляндыя, ні амаль цалкам пяхотная армія не прымаліся за дастойнага праціўніка.

Калі верыць успамінам відавочцаў, Сталін быў настроены злосна і адначасова насмешліва. Распрацоўка плана кампаніі была цалкам перададзена ў штаб Ленінградскай ваеннай акругі. "Вялікі палкаводзец" палічыў, што ў генштаба ў той час былі клопаты больш важныя, каб адцягваць яго на падобныя дробязі. Гэтак жа дырэктыўна было забаронена прыцягваць да аперацыі дывізіі ўнутраных акруг, а агульнае паражэнне планавалася нанесці за 9--12 дзён. Усяляў упэўненасць і сапраўды высокі баявы дух войск, разгорнутых на фінскай граніцы, поўных рашучасці "даць урок нахабным белафінскім бандытам" і абараніць калыску рэвалюцыі.

Рака Сестра. Дваццаць два гады гэтая ціхая рака насіла невядомы ёй да таго тытул дзяржаўнай мяжы. 30 лістапада яна пазбавілася яго, стаўшы проста адной з соцень малых карэльскіх рачулак. Стаць лініяй фронту ёй было не суджана.

Тут, на Карэльскім перашыйку, з поспехам перайшла ў наступленне наша 7-я армія, найбольш моцнае і баяздольнае аб'яднанне Ленінградскай ваеннай акругі. Фінская пяхота адыходзіла, ухіляючыся ад вялікіх баёў. Рэдкая сетка прасёлачных дарог, што ішла ў глыб краіны, на паўночны захад, стала называцца ў аператыўных зводках напрамкам галоўнага ўдару.

Трэба адзначыць, што над планам фінскай кампаніі, відаць, па ўжо агавораных вышэй прычынах, у штабе ЛВА думалі нядоўга. Ён быў просты і немудрагелісты, як штык "трохлінейкі".

Відаць, пры распрацоўцы плана галоўным лічылася тое, што найкарацейшы шлях па карце ад дзяржаўнай мяжы да Хельсінкі пралягаў менавіта тут, па ўзбярэжжы Фінскага заліва. Але гэта па карце. А на справе?

Можна задацца лагічным пытаннем: чаму не бралася ў разлік схаваная ў міжазер'і і непраходнай багне вельмі вялікая сістэма магутных фінскіх умацаваных раёнаў, эшаланіраваная ўглыб на многія дзесяткі кіламетраў, якая наглуха перакрывала дарогу ў падбрушша краіны? Больш вядомая як "лінія Манергейма", яна, па ацэнках спецыялістаў, ні ў чым не саступала існуючым сусветным аналагам, у прыватнасці нямецкай лініі Зігфрыда і французскай лініі Мажыно. Дык чаму ж для галоўнага ўдару быў выбраны гэты, гіблы ва ўсіх адносінах накірунак?

Тут можна выказаць некалькі меркаванняў.

Па-першае, на думку Сталіна, ваяваць (калі ўжо ваяваць) належала з гучнай славай, так, каб дэманстрацыя сакрушальнай магутнасці Чырвонай Арміі прымусіла з павагай прыціхнуць еўрапейскія сталіцы. Аднак акружэннямі і абходамі войск далёка не самай магутнай і шматлікай у Еўропе фінскай арміі, словам, разумнай і вытанчанай тактыкай, такой славы не здабудзеш. А вось калі ліхім таранам праламаць жалезабетонны панцыр Суомі, ды і яшчэ зрабіць гэта ў той час, калі немцы і англа-французы нерашуча топчуцца адзін супраць аднаго ў Еўропе, -- гэта ўразіць і прымусіць міжволі "зняць капелюшы" і Лондан, і Парыж, і Берлін.

Па-другое, ні тагачасны народны камісар абароны маршал Варашылаў, ні камандуючы групоўкай ЛВА камандарм 1-га рангу Цімашэнка палкаводчымі талентамі, мякка кажучы, не валодалі. Часта для абодвух рашаючым аргументам у прыняцці таго ці іншага ваеннага рашэння станавілася... звычайная лінейка, што ператварала на карце прамую лінію ад пункта А да пунта Б у напрамак галоўнага ўдару. Дарэчы, адразу ж пасля заканчэння фінскай кампаніі Цімашэнка, адказваючы на пытанні выпускнікоў ваенных акадэмій, што тычыліся новых стратэгічных рашэнняў, паблажліва адмахнуўся: "Якая вам тут яшчэ стратэгія? Ідзі наперад, прагрызай абарону -- вось і ўся стратэгія!" Але, зрэшты, пра гэтую "стратэгію" Цімашэнкі размова пойдзе крыху пазней.

Ну і, нарэшце, аб уплыве трэцяга фактара, як яго часам называюць, "чалавечага", гаварыць проста бессэнсоўна. "Малой крывёю, магутным ударам" на паверку аказалася не больш, чым фанфарным радком з бравай песні, што ніяк не адпавядала рэальнаму стану рэчаў. Салдацкая кроў заставалася ледзь ці не на апошнім месцы ў доўгай чарадзе "за" і "супраць". Пацвярджэнне таму -- шматлікія эпізоды і фінскай, і Вялікай Айчыннай, калі ля "незнаёмага пасёлка, на безымяннай вышыні" пяхоту клалі ротамі і батальёнамі, да апошняга чалавека. Ды і ці многа магло каштаваць жыццё вясковага мужыка ў чырвонаармейскім шынялі ў той час, калі маршалы і камандармы расстрэльваліся раптоўна...

Ці існаваў у прынцыпе альтэрнатыўны план кампаніі? Так. Ён быў распрацаваны яшчэ ў пачатку трыццатых пад кіраўніцтвам маршала Тухачэўскага як магчымы варыянт баявых дзеянняў супраць патэнцыяльнага праціўніка, якім тады імкліва станавілася Фінляндыя. План прадугледжваў хуткі перахват Фінляндыі ў самым вузкім месцы, у Паўночнай Карэліі, з наступным энергічным ударам на поўдзень і выхадам у тыл фінскіх умацаванняў на Карэльскім перашыйку. Аднак гісторыя распарадзілася інакш. На той час, калі патэнцыяльны праціўнік стаў праціўнікам рэальным, прах ашальмаванага маршала ўжо ляжаў у зямлі, а той яго план, як, зрэшты, і ўсе іншыя працы, стаў планам "ворага народа".

Войскам прадпісвалася дзейнічаць па другой, ужо вядомай нам схеме, што стала потым хрэстаматыйна сумным прыкладам.

Штаб Манергейма і фінская ваенная разведка змаглі разгадаць "аператыўную задуму" савецкага камандавання і павесці ўмелую контргульню. На напрамку нашага галоўнага ўдару фіны разгарнулі, бадай, лепшае, што было ў іх узброеных сілах, -- 5-ю палявую армію генерала Эстэрмана пры падтрымцы Аландскай армейскай групы.

Першыя дні баёў, хоць і не далі запланаваных тэмпаў прасоўвання, але ўсё ж не выклікалі сур'ёзных прычын для занепакоенасці. На ўсіх аператыўных напрамках Чырвоная Армія працягвала наступаць, сустракаючы, як правіла, ачаговае супраціўленне фінскіх егераў. У аператыўных зводках і данясеннях пачынае праглядвацца баявы характар праціўніка. Фінскі салдат спакойны і стойкі ў абароне, за кошт выдатнага валодання лыжамі надзвычайна рухомы, як правіла, добры стралок. Фінскія часці ўпарта абараняюць масты, населеныя пункты, важныя на мясцовасці вышыні. Пры пакіданні населенага пункта літаральна ўсё паляць, моцна мініруюць дарогу, прычым адыход войск заўсёды арганізаваны, прыкрыты ар'ергардамі, ніколі не пераходзіць у панічныя ўцёкі. Фіны баяцца абходаў, ахопаў з флангаў -- пры такой пагрозе адразу адкочваюцца на новыя пазіцыі.

Увогуле, суцэльнага фронту не існавала. Відаць, менавіта з-за гэтага іншы раз здаралася тое, што дазваляе гаварыць: на вайне трагічнае часта суседнічае з камічным. Адзін з такіх выпадкаў адбыўся ў паласе наступлення 9-й арміі, у склад якой уваходзіў стралковы батальён 43-й стралковай дывізіі Беларускай Асобай акругі.

Адна з рот гэтага батальёна, з ходу знішчыўшы фінскі пагранічны пост, пачала імкліва прасоўвацца ў глыб тэрыторыі праціўніка.

Лапландыя -- далёка не самае густанаселенае месца на зямлі: прайшоўшы дзесятак кіламетраў і не сустрэўшы ніводнага чалавека, здзіўленыя чырвонаармейцы выйшлі на ўскраіну яшчэ соннага маленькага фінскага гарадка. Цішыня і спакой насцярожылі: ці не зрабілі фіны засаду?.. Бясшумна разгарнуўшыся ў баявыя парадкі, рота, захоўваючы ўсе меры перасцярогі, уступіла ў гарадок. На адзінай плошчы акружылі прысадзістты драўляны дом, з якога чуўся смех і рознагалосы гоман.

Ігар КУЗНЯЦОЎ.

**Працяг.**
**Пачатак у № 50 — 51.**

-- Нічога з табой ня станецца, -- кажу. -- Усё яшчэ сам зробіш.

-- Не... са мной скончана... Зрабі, як кажу...

Ён змоўк.

-- Можа, табе што трэба? -- пытаюся.

-- Не... кідайце гэта... Ты выязджай...

Маўчыць. Падкладваю яму пад галаву воўну. Зноў гаворыць... вельмі ціха:

-- Уладак.

-- Я.

-- Дай машыну.

Ён рухае пальцамі правай рукі. Укладаю яму ў далонь рукаятку парабела. Сьціскае. Не разумею, што хоча зрабіць.

З-за хмараў выглянуў месяц.

Выразна бачу запалыя Сашкіны вочы і яго белы твар, на якім заўважаю пакутлівы выраз: лоб перасякае глыбокая папярэчная складка. Мае вочы засьцілаюць сьлёзы.

Раптам на ягоным бледным твары зьяўляецца дзівосная ўсьмешка. Звяртаюся да Жывіцы:

-- Затрымай каня! Ён памірае!

-- Што ты вярзеш! Халера! -- палахліва адгукаецца Жывіца.

Нахіляемся над Сашкам. Ён шэпча:

-- Бі ўлева... Ну, яшчэ... яшчэ...

Мы маўчым.

-- Хлопцы, наперад! Сячы ваўсю! -- голасна выгукнуў Сашка і зваліўся на пасьцель.

Гэта былі яго апошнія словы.

Так загінуў Сашка Вэблін -- кароль граніцы. Загінуў на савецкім баку, у сярэдзіне лістапада, у "залаты сезон", месячнай ноччу! Памёр а другой гадзіне ночы. Сьведкамі ягонай сьмерці былі я і Жывіца. У апошнія хвіліны жыцьця яму сьвяціла "цыганскае сонца". Навокал панавала ўрачыстая цішыня... Ён пакінуў Фэлю -- сястру і нас -- усёй душой адданых яму сяброў -- мяне і Жывіцу. Пакінуў па сабе добрую памяць сярод усіх хлопцаў на пагранічча.

У змрочным маўчаньні кленчым над целам дарагога сябра. На мае рукі спадаюць сьлёзы Жывіцы. Ад гэтага я пакутую яшчэ больш: ён і плач!.. Нахіляюся над целам Сашкі. Раптоўна Жывіца з перакрыўленай усьмешкай на твары, са зьбялелымі вачыма ўстае на ногі:

-- Га... А чаго ж мы так... стаім?.. Га?..

Хапае за лейцы і ў забыцьці цягне іх да сябе, аж конь прысядае на задніх нагах. Потым голасна крычыць:

-- Но-о!.. Яз-да!..

Хутка імчымся наперад. Воз глуха барабаніць па лузе. Падскоквае на ральлі. А конь усё больш ірвецца да бегу.

-- Но-о! Пайшоў! -- на ўсю граніцу крычыць Жывіца.

"Звар'яцеў, халера!"

-- Э-гэ-гэ-гэ, -- крычыць Жывіца.

І конь усё хутчэй нясецца наперад. Гэта перамытніцкі конь. Ён добра ведае нас. Ведае -- паводзім сябе дзіўнавата, разумее -- здарылася нешта незвычайнае. Можа, яго бянтэжыць тое, што ня чуе карабінавых стрэлаў.

-- Пайшоў!

Жывіца прарэзьліва сьвішча на пальцах. Я сяджу на клубах воўны. Ня ведаю, куды паклаў зброю. Нічога не магу зразумець... Над намі віруе месяц. Мае вочы засьцілаюць сьлёзы.

-- Э-гэ-гэ-гэ!.. Пайшоў! -- страшным голасам на ўсю граніцу грыміць вокліч Жывіцы.

"Навошта ён гэта робіць?" -- думаю я і пачынаю кусаць вусны.

Што яшчэ адбылося ў гэтую ноч? Нічога больш не магло здарыцца!.. Нічога... Гэта было найгоршым!..

Збоку грымелі стрэлы карабінаў. Ганаровы салют зялёнкаў для Сашкі. Воз скакаў, як мячык. Конь, нібы бура, нёсься наперад. Месяц танцаваў па цэлым небе, і ў паветры ўвесь час лунала:

-- Э-гэ-гэ-гэ!.. Я-я-зда!..

Нічога больш не магло здарыцца! Нічога!

Раніцай выпаў сьнег і затрымаўся. Адразу ўсталявалася "белая сьцежка". З намі скончана. Чорная сьцежка ўжо нам непатрэбная... бо няма Сашкі Вэбліна...

І менавіта таму ў 1923 годзе лягла раньняя зіма.

## 14

У Ракаў я прыйшоў, як толькі зьмяркалася. Бакавымі вуліцамі і завулкамі пракраўся да хаты гадзіньнікавага майстра Мужаньскага. Застаў у доме Петруся Філосафа. (Ня веда[illegible] чаму пайшоў адразу да яг[illegible]о-пец сядзеў ля ложка, на якім ляжаў Юлік Вар'ят, і чытаў яму нейкую кніжку.

-- Дзе Шчур? -- запытаўся я.

-- Ня ведаю... Даўно ня бачыў. Хадзіў зь "дзікімі".

-- Дзе Лорд?

-- Пайшоў з групай. Яшчэ не вярнуўся.

-- Што з табой? -- запытаўся ў Юліка, убачыўшы, як марна ён выглядае.

-- Застудзіўся... Але гэта нічога...

Хлопец пачаў кашляць. Прыступ кашлю быў доўгі і цяжкі. У вачах Петруся я прачытаў неспакой.

-- Ведаеш што? -- кажу Петрусю. -- Можа, прыхаваеш мае грошы? Бо я, разумееш, хаджу за граніцу... Секануць мяне там, і грошы змарнуюцца... Вы зараз не ходзіце?

-- Не... Грошы магу зьберагчы.

Сьпяшаючыся, вымаю з кішэні пачак банкнотаў. Адлічваю 1 200 даляраў і даю іх Петрусю.

-- Але ж гэта шмат!

-- Дастаткова... Працаваў таксама шмат!

Разьвітваюся з хлопцамі і крочу да дзьвярэй. Каля парога затрымліваюся.

-- Ці ведаеце, што... Сашкі няма!

-- Як няма... у мястэчку?

-- Не... Зусім няма!

Раблю ў паветры знак крыжа. Бачу іх зьдзіўленыя вочы.

Выходжу на падворак і гляджу ўгару. Месяц, апусьціўшыся нізка, без прычыны сьмяецца.

Вуліцамі крочу ў напрамку Фэлінай хаты. У вокнах яе сядзібы цёмна. Моцна стукаю ў шыбіну... як тады... Чую пасьпешлівыя крокі...

-- Хто-о?

-- Уладзіслаў.

-- Які Уладзіслаў?

-- Ну, Уладак.

-- Ага!

Неўзабаве апынуўся ў памяшканьні. На стале гарыць лямпа. Зьдзіўленымі вачыма Фэля ўзіраецца ў мяне. Доўга маўчыць а потым кажа:

-- Добры вечар!

-- Добры вечар!

Зноў маўчым.

Засоўваю руку ў бакавую кішэню курткі і вымаю замшавы мяшэчак. Падаю яго Фэлі і кажу:

-- Гэта ад Сашкі.

Бярэ яго ў рукі. Выцягваю Сашкін партманет і таксама падаю ёй.

-- І гэта ад Сашкі... Я ўзяў адтуль 500 даляраў сабе і 500 для Жывіцы. Ён так распарадзіўся. А гэта наказаў аддаць пані.

-- Што тут? -- рухам галавы паказала на торбачку.

-- Ня ведаю. Не глядзеў.

Нечакана Фэлін лоб перасякае глыбокая маршчына, такая ж, як у брата. Яе вочы цямнеюць. Бровы ссоўваюцца.

-- А дзе ён?

-- Яго няма.

-- Няма?

-- Так... Большавікі забілі яго непадалёку ад граніцы.

Расказваю коратка, аднак дакладна, пры якіх абставінах загінуў Сашка. Яна ўважліва слухае. Не перабівае пытаньнямі... Бачу бледны твар... усё больш бялее... Ідзе да крэсла і сядае...

Доўга маўчым. Гляджу на яе, а ў душы -- поўная пустка.

Падняла галаву.

-- Можа, пані нечым дапамагчы?

-- Пан "па-за законам"?

-- Так.

-- Нічога ня трэба. Я ўсё арганізую сама. У пана ёсьць дзе схавацца?

-- Ёсьць.

-- Добра. Зараз жа еду да яго... Жывіца там?

-- Там.

Ідзе ў суседні пакой і пачынае зьбірацца. За хвіліну вяртаецца.

-- Можаце ісьці. Не затрымліваю пана.

-- Да сустрэчы.

-- Да сустрэчы.

Выходжу з памяшканьня. Доўга бадзяюся па вуліцах. Наставіў каўнер курткі. Ніхто мяне не пазнае.

Гляджу ўгару. Месяц усё сьмяецца.

Мяне абмінаюць нешматлікія прахожыя. Хутка крочу вуліцамі. Холадна. Налятае рэзкі пранізьлівы ўсходні вецер. З вачэй коцяцца сьлёзы.

Іду да Гінты. Мушу штось зрабіць. Але што? Хіба напіцца.

У салоне знаёмых няма. Пад стольлю гарыць падвешаная на дроце керасінавая лямпа. Яна слаба асьвятляе вялікі пакой. Сярэдні стол пусты. Збоку, пры малым століку, бачу чатырох паўстанцаў.

Клічу Гінту.

-- Даўно ня бачыла пана Уладака, -- кажа жыдоўка.

-- Дык што з таго?

-- Нічога, а што пан жадае?

-- Бутэльку сівухі, агуркі і кілбасу.

П'ю адзін. Паўстанцы не зьвяртаюць на мяне ўвагі. Ня ведаю чаму, але я вельмі сьпяшаюся, хоць ісьці няма куды. Усё зрабіў.

Выпіў яшчэ паўбутэлькі гарэлкі. Стала цяплей, але мацней цісьне сум.

Разлічыўшыся за ўсё, выходжу на вуліцу. Зноў блукаю па мястэчку.

Падае сьнег. Дробныя бялюткія сьняжынкі весела лятаюць у паветры. Цягнуцца ўгару па доўгіх месяцовых промнях і па іх жа сасьлізгваюць долу.

Хочацца спаць. Я так даўно ня спаў. Вельмі стаміўся.

Позна ўвечары пастукаўся ў вакно да Калішанак. Зузя адамкнула дзьверы. Пляскае ў далоні і вельмі голасна выказвае радасьць:

-- А... Гэта пан Уладзіслаў! Нарэшце! Вітаю! Вітаю пана! Вітаю!

-- Вітаю! Вітаю! -- змрочна паўтараю яе словы.

-- Калі ласка, праходзьце. Калі ласка.

Усьміхаецца. Вірлівымі вачыма, вывучаючы, абмацвае мяне.

-- Можа, што зьесьці, выпіць?

-- Дай гарэлкі.

-- Зараз будзе. Зараз. Усё, што пан захоча. Сядай, пан, тут. Тут выгодней.

Зноў п'ю гарэлку. Зузана спакушальна ўсьміхаецца. Увесь час круціцца па хаце. Устае з-за стала, пась[illegible]зноў сядае. Яе грудзі скач[illegible]нібы налітыя вадой гумавыя шары.

-- А Тоська часта пана ўспамінае... А пан гэткі "не ў гуморы". Я гавару і гавару, а пан сабе -- нічога!

-- Язык у мяне замёрз. Трэба разагрэць!

Зузя гола[illegible]рагоча і пульхнымі далонямі б'е па ляжках.

Працягваю піць. Потым куру папяросу за папяросай. Кабета скоса паглядае на мяне.

-- А можа, бай-бай? Да Тосенькі ў ложачак. З такога холаду ды на цёплыя ножкі!.. Хэ-хэ-хэ!

Трасецца ў бязгучным сьмеху.

Бачу, што ў яе два насы і шмат вачэй, а таксама, што ўсё трасецца і калоціцца, як гума, як цеста.

Крочу ў суседні пакой. За мной зь лямпай у руках шлэпае пантофлямі Зузя.

-- Тосенька, прывітай добра пана Уладзіслава!

-- Мамуся, як з глузду зьехала! -- адказвае заспаная дзяўчына.

Распранаюся. Так даўно ня спаў. Зузя сьцягвае з мяне боты. Пасьля ўсім целам ныраю ў мяккі цёплы ложак. Зузя нешта кажа, хіхоча і зь лямпай у руках выходзіць з пакоя. Робіцца цёмна. Тоська прыціскаецца да мяне гладкім гарачым целам.

"Здарылася нешта вельмі важнае! Вельмі! Вельмі! Вельмі!.. Але што?"

Лячу ў душную гарачую бездань.

-- Ну, падымайся! -- чую праз сон патрабавальны голас.

Хтосьці трасе мяне за руку.

Адкрываю вочы. Мяне асьляпляе прамень сьвятла кішэннага ліхтарыка. Праз хвіліну заўважаю ў пакоі некалькі паліцыянтаў. У руках трымаюць рэвальверы.

У той жа момант да мяне вяртаецца прытомнасьць. "Зброя ляжыць у бакавой кішэні курткі. А дзе куртка? Зрэшты, мне нельга абараняцца!"

-- Імя і прозьвішча? -- пытаецца той самы службісцкі голас.

-- Антон Пятроўскі.

Зузя хіхоча.

-- А пан Уладак жартаўнік. Ён, пан начальнік, яшчэ не працьверазіўся. Пагуляў сабе хлопчык... Хэ! Хэ! Хэ!

Яна мне агідная. Зразумеў, што гэта Зузя мяне засыпала.

-- Апранайся!

Вылажу з ложка і павольна пачынаю апранацца. Увесь час знаходжуся ў сьвятле ліхтарыка, але гэта мяне не кранае. Зрабіўся да ўсяго абыякавы.

-- Пагуляў кавалер! -- чую сіпаты бас, які даходзіць да маіх вушэй нібы здалёк.

Нехта сьмяецца. Зузя лісьліва падтрымвае.

Пасьля на запясьцях рук адчуваю халодную сталь кайданаў.

"Здарылася нешта вельмі важнае! Але што? Што?"

Выходзім у сенцы. Рулі рэвальвераў чуйна сочаць за мной. Лашчаць праменьні ліхтарыкаў.

-- У мяне заўсёды парадак, пан начальнік... -- чую ззаду шэпт Зузі.

Ідзём вуліцамі. Месяц пырскае сьмехам. Сьняжынкі весела гуляюць у паветры.

Абмінаем двух мужчын з кіямі ў руках. Начная варта.

Мяне адвялі ў камісарыят.

Назаўтра допыт. Пратакол.

На вочную стаўку прыводзяць Альфрэда, Альфонса і Альбіна Алінчукоў.

-- Ведаеш яго? -- запыталіся ў Альфрэда.

-- А як жа, ведаю! -- зьедліва пасьміхаецца перамытнік.

-- Ён цябе падстрэліў?

-- Ён. Заступіў нам дарогу і пачаў страляць. Хацеў абрабаваць!

Браты Алінчукі з дакладнасьцю паўтараюць яго словы. Не перабіваю. Хай гавораць, што хочуць! Усё гэта глупства ў параўнаньні з тым...

Потым пытаюцца ў мяне. Расказваю ўсё, што казаў перад гэтым. Дакладна апавядаю пра ўсё здарэньне. Прыгадваю новыя падрабязнасьці. Але бачу ўсьмешкі і недаверлівыя позіркі. Ня вераць мне. Тады я зусім перастаю адказваць на іх пытаньні.

На чацьвёрты дзень майго арышту, у пяць гадзін пасьля палудня, выязджаем з Ракава ў Івянец да сьледчага. Едзем у санях. Я ўціснуўся ззаду на сядзеньні паміж двума паліцыянтамі.

З Рынка едзем на Слабаду. Мінаем Трафідаву хату. Гляджу ў вокны. Здалося, што бачу за шыбай нечы твар. Можа, Янінкі?

Узьязджаем на мост. Колькі разоў я праходзіў тут адзін і разам з хлопцамі. А зараз!

Памалу зьмяркаецца. Цісьне моцны мароз. Кайданы marозяць запясьці, таму засоўваю далоні глыбока ў рукавы. У паветры круцяцца дробныя аплаткі сьнегу і ствараюць рухлівую, зіхоткую фіранку, з-за якой краявід выглядае асабліва чароўна.

Абапал дарогі стаяць дрэвы. Яны трымаюць на галінах цяжкае пакрывала са сьнегу. Разам з трактам удалячынь бягуць тэлефонныя слупы. Чую іх манатоннае, зь нейкай вібрацыяй, гучаньне.

Паліцыянты вымаюць папяросы, закурваюць самі і частуюць мяне. Адмаўляюся.

-- Пан ня курыць? -- пытаецца адзін з іх.

-- Куру... але свае.

-- Слушна! -- кажа другі.

Фурман паганяе каня, аднак кляча марудна члапае і толькі тады робіць мацней крокі, калі чуе ў паветры посьвіст пугі.

З усходу дзьме пранізьлівы халодны вецер. У мяне замярзае левая шчака і вуха. Вымаю з рукавоў далоні і зь цяжкасьцю настаўляю каўнер курткі.

Сьнег падае ўсё радзей і нарэшце зусім перастае. На небе зьяўляюцца зоркі. Месяц старанна пнецца ўгару: паважны, задуменны, ён не зьвяртае на нас увагу.

У галаве пралятае шмат розных думак... Мільгаюць, ня зьвязваюцца, імчаць хутка, бясформенна. Мяне агортвае абыякавасьць да ўсяго.

Паліцыянты размаўляюць. Кажуць пра нейкія падвышкі на сем'і, пра дзяцей. Часта перапыняюць размову. У нейкі момант адзін зь іх кажа другому:

-- Ведаеш Сашку Вэбліна?

-- Ведаю. Брат той чарнулі. Як яе імя?

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




Працяг.
Пачатак у №№ 29—51.

# НЕ З АБСОХШЫХ ГАЛІН



З НОВЫМ ГОДАМ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

якая ўпадае ў Дзвіну і называецца Палата".

А вось фрагмент летапісу пра іх геапалітычную і дзяржаватворчую актыўнасць. Паведаміўшы пра заснаванне Кіева, летапісец дадае: "...А ў драўлян было сваё княжэнне, а ў дрэгавічэй сваё, а ў славян у Ноўгарадзе сваё, а іншае на рацэ Палаце, дзе жылі палачане. Ад іх паходзяць крывічы, якія сядзяць у вярхоўях Волгі, і ў вярхоўях Дзвіны, і ў вярхоўях Дняпра, іх жа горад Смаленск. Якраз там сядзяць крывічы". Расійскія гісторыкі прызнаюць, што "крывічы адыгралі вялікую ролю ў каланізацыі Волга-Клязьмінскага міжрэчча".

Але -- не толькі ў каланізацыі. Верагодна, яны былі сярод першых, хто заклікаў варажскія дружыны ў якасці наёмнай ваеннай сілы, плацячы ім "данню", гэта значыць, натуральнымі прадуктамі. У 862 годзе наўгародскія славяне, крывічы, мера, весь і чудзь "выгналі варагаў за мора і не далі ім дані". І вось "не стала сярод іх праўды, паўстаў род на род, і была ў іх усобіца". І сказалі паміж сабою: "Пашукаем сабе князя, які валодаў бы намі і судзіў паводле закона". І адправілі паслоў да Русі варажскай і сказалі ім: "Зямля нашая вялікая і багатая, а парадку на ёй няма. Прыходзьце княжыць і валодаць намі".

У гэтай драматычнай завязцы летапіснай аповесці прыхаваны мастацка-міфалагічны архетып, які выяўляе працэсы гістарычнай важнасці -- станаўленне дзяржавы і права як гарантаў справядлівасці. Дарэчы, аўтар першага летапіснага зводу прымяніў метанімію ў форме сінекдахі: назваў усіх крывічоў палачанамі, абазначыў цэлае ягонай часткаю. І гэтым самым засведчыў пра гістарычную ролю Полацка. Лідэрства крывічоў і Полацкага княства ва ўсходнеславянскай геапалітыцы і культуры шматгранна адлюстравана ў летапісных ды іншых крыніцах, у гераічнай паэме "Слова пра паход Ігаравы", урэшце, даследчыкамі розных навуковых кірункаў і палітычных арыентацый.

Мікола Ермаловіч на падставе комплекснага даследавання першакрыніц, археалагічных, лінгвістычных і інш. даных прыйшоў да высновы: "Крывічы побач з дрыгавічамі адыгралі першаступенную ролю ў фармаванні беларускага народа. Яны, бясспрэчна, былі самым шматлікім усходнеславянскім племем. Пра гэта сведчыць тая вялікая прастора, на якой яны рассяляліся, а менавіта: ад Верхняга (а магчыма і сярэдняга) Панямоння да Кастрамскога Паволжа, ад Пскоўскага возера да Верхняга Сожа і Дзясны". М.Ермаловіч развіваў гіпотэзу, упершыню абвешчаную (хутчэй як здагадку літаратара і гісторыка) Ластоўскім у 1920-я гады і паўтораную ў 1950-я Янам Станкевічам, паводле якой да ўтварэння крывічанскага Полацкага княства існавала адносна вялікая Крывія ў эпіцэнтры рассялення крывічоў на правабярэжжы Нёмана ад Заходняй (нёманскай) Бярэзіны да ракі Дзітвы на поўдні і да Вяллі на поўначы, уключаючы Крэва і Вільню, дзе сканцэнтраваны крывіцкія тапонімы.

Паводле таго ж Ермаловіча, Віленшчына -- старадаўняя крывіцкая зямля, якая на трэцім этапе нашай гісторыі, у віленскі перыяд беларускай дзяржаўнасці, паслужыла ядром станаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Але яшчэ да яго ўзнікнення беларусы-крывічы ўтварылі вялікае Полацкае княства, якое займала ключавую пазіцыю на шляху "з варагаў у грэкі" (гандлёвы транскантынентальны шлях, які злучаў Паўночную Еўропу з Візантыяй), пранікалі ў летапісную Літву, Прыбалтыку, мелі свае гарады-калоніі Герцыке і Кукейнас у сучаснай Латвіі і выхад да Балтыйскага мора па Дзвіне. Урэшце, палачане-крывічы былі пачынальнікамі самабытнай беларускай культуры. Імёны Рагнеды, Усяслава Чарадзея, яго ўнучкі Ефрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага сёння вядомыя не толькі ў славянскім рэгіёне. У Полацку пачалася вышэйшая адукацыя на Беларусі (тут працаваў і напісаў свае асноўныя даследаванні выдатны філолаг, філосаф і гісторык культуры М.Сарбеўскі. Славутымі нашчадкамі палачанаў і крывічоў былі пачынальнікі новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, дзеячы беларускага нацыянальнага Адраджэння ад Францішка Багушэвіча і Вацлава Ластоўскага да нашых выдатных сучаснікаў Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна.

Духоўна-культурнае лідэрства крывічоў ды іх нашчадкаў у нашай гісторыі прычынілася да ўзнікнення полацка-крывіцкай канцэпцыі беларускай дзяржаўнасці і культуры. Больш важныя аргументы на карысць перайменавання Беларусі ў Вялікую Крывію мелі геапалітычны змест, пра іх размова пойдзе пазней [illegible]чня яна не зафіксавана ні ў [illegible]ым энцыклапедычным даведніку, аднак прысутнічае ў якасці традыцыі ў сучасных абгрунтаваннях гістарычнасці беларускай нацыі і самабытнасці яе культуры. Некаторыя аспекты [illegible]кой фундаменталісцкай тэс[illegible] у добрым сэнсе гэтага пан[illegible]) закранаюцца мною ў артыкулах "Эстэтычныя погляды Вацлава Ластоўскага", "Валхвец беларускага фундаменталізму" (пра таго ж Ластоўскага) і "Гартаючы старонкі "Веды" (Беларускі друк у Амерыцы)".

Крыўскую тэорыю беларускай дзяржаўнасці і культуры ўпершыню абгрунтаваў (на ўзроўні навуковай публіцыстыкі і мастацкай інтуіцыі) В.Ластоўскі, родам з Полаччыны. Жыццю і творчасці гэтага велікамучаніка беларускай нацыянальнай ідэі была прысвечана міжнародная навуковая канферэнцыя ў Наваполацку (кастрычнік, 1993 год), матэрыялы яе сёлета апублікаваны ў штогадовіку "Беларусіка". Аднак тады "крывіцкая канцэпцыя" не абмяркоўвалася, хоць фрагментарна закранапася ў дакладах. Між тым ідэя Вялікай Крывіі як архетыпу беларускай дзяржавы, крывіцкай мовы, культуры "прасвечваецца" праз назвы твораў В.Ластоўскага, найперш часопіса "Крывіч" (Коўна, 1923–1927) і "Расійска-Крыўскі (беларускі) слоўнік" (Коўна, 1924), "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" (Коўна, 1926). Пазней (1940--1970-я гады) "крыўска-беларускую" ідэю развіваў у акупіраванай нямецкімі войскамі Беларусі і ў эміграцыі вядомы лінгвіст, гісторык і грамадскі дзеяч Янка Станкевіч (1891--1976).

Аднак зварот да крывіцкіх вытокаў беларускай культуры пачаўся недзе з 20-х гадоў XIX стагоддзя, у эпоху беларуска-польскага рамантызму. Тады этнонім "крывічы" яшчэ не набыў значэнне ключавога паняцця беларускай філасофіі гісторыі і нацыянальна-палітычнай дактрыны: Ян Чачот (1796--1847) у сваіх прадмовах да зборнікаў "сялянскіх песняў з-над Нёмана і Дзвіны" (Вільня, 1837--1846) называў наш народ крывічамі, а іх мову і паэзію крывіцкай. Ён апублікаваў артыкул "Некаторыя крывіцкія ідыёмы (уласназвы) з Навагродскага павета...", выбраныя "Крывіцкія прыказкі і прымаўкі", "Слоўнік крывіцкіх выразаў" і інш. Аднак Ян Чачот быў яшчэ занадта "польскім беларусам", хутчэй асветнікам, чым нацыянальным прарокам, таму сумняваўся, каб "крывіцкі дыялект" некалі стаў самастойнаю літаратурнаю мовай".

Паводле сведчання А.Шлюбскага (Гісторыка-этнаграфічныя нататкі. Мн., 1926, с. 343), крывічом лічыў сябе выдатны беларускі фалькларыст і лексіколаг Іван Насовіч, ураджэнец Мсціслаўшчыны.

У пэўным сэнсе папярэднікам крывіцка-беларускага фундаменталізму В.Ластоўскага і Я.Станкевіча быў малавядомы ў беларускай літаратуры пісьменнік і публіцыст Вайніслаў Казімір Савіч-Заблоцкі (псеўданімы Гаўрыла Полацкі, Павел Завіша, граф Суліма з Белай Русі, грамадзянін Белай Русі, 3.3.1850- пасля 1893). Нарадзіўся ён у вёсцы Панчаны былога Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці). Бацька -- граф-вальнадумец, памёр, калі сыну было ўсяго тры гады. Выхоўваўся ў сям'і расійскага генерала І.Лабынцава. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, ва універсітэтах Прагі, Лейпцыга, Страсбурга. Пісаў па-польску гістарычныя драмы, раманы, спрабаваў пісаць па-беларуску. Ягоныя лісты да ўкраінскага асветніка Міхаіла Драгаманава адкрываюць раней невядомую старонку вытокаў беларускага культурна-нацыянальнага адраджэння.

Вось што ён паведамляў восенню 1886 года: "Сышоўся я з маладымі, як і я, панамі, -- усё з грахвамі, князькамі та з сынкамі камергераў, генералаў, ляхамі та й маскалямі, поўнымі шляхетнасці, добрахотнасці, ахвоты прынесці сябе ў ахвяру ўсёнадзелу (грамадскай справе. -- **У.К.**)... І, даўшы кожны па сто рублёў та й болей, мы хвундавалі ў Пецярбурзе Крывіцкі Вязок у 1868 року, хацелі плашчыць (друкаваць. -- **У.К.**) букі (кнігі. -- **У.К.**) для чорналюда (буквары, календары, рыхметыкі, вандзелкі (евангеллі. -- **У.К.**), праваслаўны і каталіцкі малітвасловы, Эзопа паслоўкі, прыбавуткі, заалогію, гігіену мужыцкую і другія, не палітычныя, і не сацыяльныя, і не багаслоўскія кніжкі). Хацелі самі вучыцца дыялекту чорналюда і яго так ушляхціць, што б ён і нашым мог стацца языком; хацелі "хадзіць у народ", як гэта тады ракалася... Сталі падгатаўляць мы беларускую слоўніцу, сабіраць песні чорналюда, капіць матэрыял па гісторыі нашага руства. Я пісаць меў з Полацку".

Аднак Крывіцкі Вязок, паводле слоў Савіча-Заблоцкага, адразу ж "прыкрылі", калі высветлілася, што ягоныя маладыя энтузіясты хочуць стварыць беларускую літаратурную мову, навуку, школы замест таго, каб праводзіць русіфікацыю Беларусі. Крывіцкі гурток "рассыпаўся", яго сродкі пайшлі "на патрэбу цэркваў Паўночна-Заходняга краю". За гуртkоўцамі ўстанавілі жандарскі нагляд, некаторых паслалі за мяжу "лячыцца", іншым параілі казённую службу, а рэшту абавязалі "не отлучаться с места жительства".

Крыўская канцэпцыя беларускай дзяржаўнасці і культуры была зыходнай ідэяй беларускага нацыянальнага фундаменталізму, пра які я ўжо пісаў у ранейшых публікацыях. Трэба мець на ўвазе той беларускі Апакаліпсіс, ва ўмовах якога В.Ластоўскі і Ян Станкевіч стваралі вобраз Вялікай Крывіі як правобраз Беларусі. У першым выпадку (гады выдання часопіса "Крывіч", 1923--1927) Савецкая Расія і адроджаная Польшча пана Пілсудскага падзялілі Беларусь і спрабавалі яе праглынуць -- адкрыта ў Польшчы і крывадушна прыкрыта ў СССР. У другім выпадку -- тады, калі Беларусь стала арэнай самай страшнай у еўрапейскай гісторыі вайны, а пасля перамогі бальшавікоў пачалася яе татальная русіфікацыя.

Полацка-крывіцкая ідэя займала прыкметнае месца не толькі ў часопісе "Крывіч", заснавальнікам, рэдактарам і асноўным аўтарам якой быў В.Ластоўскі (артыкулы "Аб найменнях "Гуды", "Крывічы", "Русь": Гісторыка-крытычны нарыс", "Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаў" і інш.). Ягоны "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік" і "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", артыкулы 20-х гадоў па этнаграфіі, фальклору і лексікаграфіі таксама прысвечаны рэканструкцыі гістарычнага, культурнага [illegible]істычнага вобраза Беларус[illegible]ая ж задача закладзена ў ягонай фантастычнай аповесці "Лабірынты", прысвечанай старадаўняму Полацку. У прадмове да слоўніка В.Ластоўскі сфармуляваў сваю ідэю вось такім чынам: "Назваў я гэты сло "руска-крыўскім", бо гісто[illegible]я сьведчыць, што нашае запраўднае племяннoе і нацыянальнае найменьне ёсць Крывічы. Зьмены імён народаў цесна зьвязаны з гістарычнымі рэвалюцыямі, перажываемымі народамі. У нашым гістарычным жыцьці было некалькі такіх рэвалюцый, якія складаюць пэрыёды нашай гісторыі (...). На зарані гістарычных часоў наш народ выступае як сарганізаванае цэлае, нацыянальнае і палітычнае, пад найменьнем Крывічы".

Назву "Русь", на думку Ластоўскага, прыўнеслі варажскія дружыны, якія ён памылкова лічыў заваёўнікамі ўсходнеславянскіх земляў. Яны ж, варагі, на ягоную думку, навязалі крывічам чужую рэлігію -- хрысціянства, пад уплывам якога ўвесь абшар усходніх славянаў атрымаў найменне Русь. Наступіў "крыўска-рускі" перыяд нашай гісторыі (X--XIII стагоддзі). Яго змяніў "вялікалітоўскі перыяд", што закончыўся раздзелам Рэчы Паспалітай у 1772--1795 гадах. Урэшце, у складзе Расійскай імперыі замацавалася найменне Беларусь. Задача беларускага народа, на думку Ластоўскага, -- аднавіць спыненую культурна-дзяржаўную традыцыю праз вяртанне да сваіх каранёў, да фундаменту нашай дзяржаўнасці -- Вялікай Крывіі.

"Цяперашняе нацыянальнае адраджэньне наша, -- казаў Ластоўскі, -- пачалося не са старых абсохшых галін, а з каранёў народных. Пачалося і будуецца не дынастыяй, не рэлігіяй, не шляхтай, а самім крыўскім народам. І дзеля гэтага, шануючы перажытую гісторыю, не выракаючыся культурных здабыткаў, прыдбаную ў нашу нацыянальную скарбніцу пад найменьнем "Русь" і "Літва" ці іншым якім, мы, хочучы быць самаістым славянскім народам, выносім з гісторыі нашай і з нашага народу на сьвет прастарае племяннoе і нацыянальнае сваё найменьне -- Крывічы. Мы крывічы па крыві, па роду-племені (...). Мы крывічы, а ня Русь Літоўская, Варажская ці Маскоўская, Белая ці Чорная, мы асобны славянскі народ (...). Мы крывічы, гэта значыць, што мы па доўгім, цяжкім сьне прабуджаемся вольнай душой, як вольнымі пачувалі сябе нашы прашчуры па вечах старэтных".

Калісьці манголы заваявалі Кітай і на той знак, што кітайцы сталіся рабамі, накінулі ім абавязак насіць косы. Мінула тры тысячы гадоў, кітайцы вызваліліся ад няволі, а косы носяць. "Ня будзем жа мы, -- кажа Ластоўскі, -- падобны кітайцам. Адкіньмо ад сябе з пагардай усякія патлы гістарычнай залежнасьці, асабліва калі гэтая залежнасьць, як таўро ганьбы, кладзецца на нашае нацыянальнае імя".

Ні В.Ластоўскі, ні тым больш Я.Станкевіч не былі ўпэўненыя ў тым, што этнонім "Крывія" заменіць назву Беларусь. Апошнюю элегію Крывіі В.Ластоўскі адспяваў у 1926 годзе, калі напісаў: "Крывія, Русь, Літва -- патройны вузел, трохпаверхі лабірынт, у якім блудзіла і дагэтуль блудзіць нашае нацыянальнае "я", наша зборная душа. У меру таго, як пачынае гаснуць і заміраць прасторы вечавы ўклад грамадзянскага жыцьця, адыходзіць удаль, але не замірае імя "Крывія", "Крывічы" (...). І недзе ў мінуўшчыне, а такжа глыбока ў народнай сьвядомасьці жыве і пакутуе, чакаючы для свайго ўваскрэшэньня, напоўмістычнае імя "Крывія", якому прызначана ў жыцьці народу замкнуць круг гісторыі, быць ачышчаючым агнём, магічным дарожным знакам, гаючай і жывучай вадой Адраджэньня Народу".

Ян Станкевіч з канца 60-х гадоў аддаваў перавагу Вялікай Літве як адэкватнаму найменню Беларусі.

Сёння відавочна, што справа не так у этноніме і назве дзяржавы, як у тым, каб вярнуць беларусам цэласную, неабкарнаную гісторыю, аднавіць яе непарыўнасць і ўкараніць у грамадскай свядомасці -- рэгіянальнай і сусветнай. Бо і сёння ў блізкім і далёкім замежжы (і да нашага сораму -- на Беларусі) бытуе прымітыўная палітычная міфалогія, паводле якой Беларусь у мінулым не мела сваёй дзяржавы і самабытнай культуры. Вось чаму і сёння "крыўская тэорыя" не страціла сваёй духоўнай і палітычнай актуальнасці. Бо, па-першае, яна сведчыць пра шматвяковую рэтраспектыву беларускай дзяржаўнасці і культуры. Па-другое, яе стваральнікі прапанавалі свае варыянты беларускай літаратурнай лексікі, шмат зачарпнуўшы з гістарычных і народных крыніцаў. Лексікаграфічныя даследаванні В.Ластоўскага і Я.Станкевіча, асабліва іхнія слоўнікі, яшчэ спатрэбяцца нам, калі наступіць пара лекавання нашай пакалечанай русіфікацыяй мовы. Урэшце, па-трэцяе, крыўская тэорыя паслужыць каталізатарам для заглыблення даследчыцкай думкі ў беларускую культурна-гістарычную рэтраспектыву, каб па ёй вызначыць шлях у будучыню.

**Уладзімір КОНАН.**

# У ПАМЯЦЬ АБ МАЙСТРЫ

## АДКРЫЎСЯ МУЗЕЙ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ СКУЛЬПТУРЫ ІМЯ АНДРЭЯ БЕМБЕЛЯ

Андрэй Бембель -- адна з найбольш яркіх асоб у гісторыі беларускай культуры. Яго самыя вядомыя скульптурныя кампазіцыі: барэльефы на Доме ўрада, у Доме афіцэраў, на абеліску-помніку на плошчы Перамогі ў Мінску, бюсты М.Гастэлы, А.Матросава, абеліск на Кургане Славы, шматлікія помнікі Леніну, партрэты Мендзялеева, Міцкевіча, Купалы -- мы ацэньваем сёння не па ідэалагічных адзнаках, не па тэматыцы, а па выдатным майстэрстве, па моцы выканання, па прызнанні і агульнай вядомасці Андрэя Бембеля.



У Мінску, на вуліцы Я.Коласа, у глыбіні двара, хаваецца за маляўнічымі дрэвамі дом пад нумарам 29 "а". Тут Андрэй Бембель, народны мастак Беларусі, правёў апошнія гады жыцця. У гэтым доме некалі было сабрана ўсё, дарагое сэрцу мастака: злепкі, памятныя падарункі, фотаздымкі, сувеніры, рукапісы выступленняў, лісты. Тут былі прасторная майстэрня, жылыя пакоі, працоўны кабінет, бібліятэка; тут былі выкананы лепшыя работы мастака, засталіся незавершанымі дзесяткі эцюдаў у пластыцы і гліне, станковыя кампазіцыі, праектныя эскізы. У гэтым доме заўжды было людна -- сюды прыходзілі сябры, вучні, ганаровыя госці.

Можа, менавіта таму штогод трыццатага кастрычніка збіраліся ў гэтай майстэрні сябры і вучні скульптара, каб памянуць яго добрым словам у чарговую гадавіну смерці, каб запаліць свечку памяці, памарыць пра музей мастака, які меркавалі адкрыць у... кожным наступным годзе. Колькі тых гадоў прайшло з дня ягонай смерці 13 кастрычніка 1986 года?..



І вось 30 кастрычніка -- памятны дзень, калі нарэшце здзейснілася добрае пачынанне. З дапамогаю Міністэрства культуры і друку, Мінгарвыканкома, Саюза мастакоў (які, па сутнасці, і з'яўляецца гаспадаром музея), Беларускай акадэміі мастацтваў адкрыўся музей сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля. Ён пакуль зусім невялікі: зала з варыянтам вядомага помніка М.Гастэлу, сямейнымі здымкамі мастака і музейны пакойчык з работамі скульптара, у асноўным -- малымі формамі. Але галоўнае -- пакладзены пачатак, працягам якога, магчыма, стане адкрыццё музея ў доме-майстэрні другога мэтра беларускай скульптуры Заіра Азгура.

**НА ЗДЫМКАХ: тут адкрыты музей імя А. Бембеля; работы майстра.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ШТО ЧАКАЕ НАШУ КРАІНУ Ў XXI СТАГОДДЗІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Адмова краіны ад выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў па міжнароднаму дагавору азначае страту да яе даверу. Думаю, што пасля прыпынення выканання Дагавора АБСЕ Захад перастаў давяраць Беларусі. А чаго вартая спроба скандальнай заявы аб прыпыненні выплаты ўзносаў ЮНЕСКА, што азначала б па сутнасці выхад з гэтай аўтарытэтнай арганізацыі. ЗША вяртаюцца ў ЮНЕСКА, а мы сабраліся пакідаць. Такія непрадуманыя заявы і дзеянні прыводзяць да самаізаляцыі Беларусі. Каму гэта выгадна?

Трэба было да канца выкарыстаць тактыку ціску на НАТА, балансаваць на мяжы прыняцця такога адказнага рашэння, але не даводзіць справу да скандалу, да зрыву, па сутнасці, тэрмінаў рэалізацыі гэтага пагаднення. У свой час МЗС дабілася ад ЗША выдзялення 5 мільёнаў долараў на гэтыя мэты.

Захад не надта рвецца дапамагаць новым незалежным рэспублікам, бо гэтак жа, як і яны, спрабуе атрымаць найбольш шырокі доступ да расійскіх сыравінных рэсурсаў. У гэтым сэнсе для Беларусі асабліва павучальны вопыт Фінляндыі. Гэтая краіна, застаючыся нейтральнай, за 45-гадовае палітычнае супрацоўніцтва з СССР змагла дабіцца высокага ўзроўню жыцця, стварыць нямала дадатковых рабочых месцаў. Не ўтойваю, я з'яўляюся прыхільнікам і аўтарам канцэпцыі "фінляндызацыі" адносін з Расіяй.

Аднак мяне трывожыць іншае: неразуменне Захадам таго, што адсутнасць шырокамаштабнай дапамогі Беларусі, Расіі і Украіне ўяўляе вялікую пагрозу для Захаду. Калі Еўрапейскі саюз да 2005 года істотна не дапаможа гэтым краінам у стварэнні спрыяльных умоў для развіцця рынку інтэграцыі ў еўрапейскія эканамічныя структуры супольніцтва, то наш кантынент чакаюць вельмі складаныя часы.

**-- У чым жа будзе выяўляцца гэтая пагроза!**

-- Адсутнасць поспеху ў правядзенні рыначных рэформ прывядзе да песімізму, да расчаравання насельніцтва, масавай прыгнечанасці, далейшага збяднення, а значыць магчымай мілітарызацыі эканомікі, "закручвання гаек" у сродках масавай інфармацыі. Чым бяднейшыя Расія, Беларусь і Украіна, тым яны больш небяспечныя для Захаду. Але гэта -- у перспектыве. Мне здаецца, што "пахаладанне" адносін з Захадам можа адбыцца ўжо ў бліжэйшай будучыні.

У рэспубліцы маецца шанс выйсці з крызісу шляхам істотнага скарачэння сярэдняга машынабудавання. Тады не давядзецца ўвозіць у Беларусь вялікую колькасць металу, вугалю, нафты, газу. Трэба рабіць стаўку на навукаёмістую вытворчасць. У першую чаргу трэба падтрымліваць такія вытворчасці, як завод Вавілава, які выпускае выдатную оптыку, у тым ліку ваеннага і касмічнага прызначэння. Калі ў Беларусі будзе канчаткова дэвальвіравана праца высокакваліфікаваных інжынернатэхнічных работнікаў, гэта будзе недаравальнай памылкай. Тым больш, што нацыянальную Акадэмію навук ужо, па сутнасці, "дабілі". Неабходна ствараць для іх невялікія, але аператыўна дзеючыя фірмы, якія хутка перабудоўваюцца і звязаны з навукаёмістай і адначасова нематэрыялаёмістай вытворчасцю.

Так, цяпер вельмі цяжка думаць катэгорыямі 2005 года. Асабліва цяжка гаварыць пра гэта з народам. І я разумею складанасці, з якімі ў гэтай сувязі могуць сутыкнуцца сённяшнія палітыкі і адміністратары. Тым не менш гэта трэба рабіць.

Я бачу сёння нямала стратэгічных пралікаў. Узяць хаця б існуючую забарону на вываз за мяжу грашовых сродкаў. Вядома, у большасці беларускіх прадпрыемстваў няма свабодных абаротных сродкаў. Але калі Беларусь не будзе нічога інвесціраваць у эканоміку той жа Расіі, мы ніколі не атрымаем стратэгічных дывідэндаў! РАТ "Газпрам" дазволіла продаж сваіх акцый. Вось што неабходна купляць!

Няўжо незразумела, што, уклаўшы мільён долараў у нафтагазавы комплекс Сібіры сёння, заўтра атрымаеш дзесяць?! А што ў нас на практыцы? Атрымліваем крэдыт МВФ і тут жа "пераганяем" яго Расіі за бягучыя пастаўкі нафты і газу. Інакш кажучы, бяром стодоларавыя купюры і палім імі печ. А чаму не акумуліраваць крэдыты і не купіць акцыі "Газпрама" ці "ЛУКойла"? Пры гэтым упэўнены, што Беларусь можа не толькі захаваць, але і ўмацаваць свой суверэнітэт.

Я веру, што ў Беларусі ёсць шанс інтэгравацца ў Еўрапейскі саюз. Але не адразу, не за адзін прысест. Зусім відавочна, што раней за нашу рэспубліку -- прыкладна ў 1998 годзе -- гэта зробяць Польшча, Венгрыя, Чэхія і Славакія. А Румынія і Балгарыя -- у 2002 годзе, дзяржавы Балтыі -- у 2005 годзе, а потым ужо, адначасова, а не паасобку -- Расія, Беларусь, Украіна і Казахстан. Усялякая спроба Беларусі "прывязацца", напрыклад, да краін Балтыі загадзя асуджана на правал. Вядома, жыццё можа ўнесці карэктывы ў мой прагноз, і Беларусь "сядзе" ў панеўрапейскі вагон намнога пазней.. Кожны год таптанняў на месцы цяпер абарочваецца дадаткова пяццю гадамі адставання, адсоўвае ўступленне ў Еўрапейскі саюз. Хоць бы рэспубліка не спазнілася!

Асноўную масу з неабходных 100-мільярдных інвестыцый трэба шукаць у Расіі, а не на Захадзе. Гэтыя грошы могуць укласці ў эканоміку Беларусі карпарацыі і буйныя фінансава-прамысловыя групы Расіі. Вядома, пошук інвестыцый павінен быць шматвектарным. Мы за тое, каб у нашу прамысловасць інвесціраваліся сродкі заходніх краін. Аднак, каб атрымаць іх, нам неабходна зрабіць рэвалюцыю ў галіне заканадаўства: дазволіць свабодную куплю-продаж зямлі, надзейную ахову інвестыцый і вольны вываз капіталу. Калі размова ідзе аб продажы зямлі, сячы з-за пляча нельга. А хто адважыцца зрабіць гэта, не параіўшыся з народам, без агульнанацыянальнага рэферэндуму?

### З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СУЧАСНЫ ГАБЕЛЕН

Танюткі, у сціплай вокладцы альбом гэты прайшоў амаль што незаўважаным. А між тым "Сучасны габелен беларускіх мастакоў" (аўтар тэксту — вядомы мастацтвазнаўца Барыс Крэпак) дапамагае ўявіць ці не ўвесь спектр зацікаўленняў беларускіх мастакоў, якія працуюць над габеленам, дапамагае па-добраму падзівіцца поспехам, дасягнутым творцамі. Тым больш, што гісторыя сучаснага габелена вымяраецца наўздзіў кароткім адрэзкам часу. Вось што сцвярджае, у прыватнасці, і Барыс Крэпак: "Аснова паспяховага развіцця сучаснага беларускага габелену -- у арганічным спалучэнні нацыянальных традыцый з вопытам айчыннай і сусветнай мастацкай культуры. Нашаму адроджанаму габелену ўсяго 20 гадоў! Тэрмін для развіцця мастацтва вельмі малы. Між тым менавіта ў нас, на Беларусі, гэты від творчасці абапіраецца на трывалы гістарычны грунт. Нездарма спакон вякоў ткацтва было адным з асноўных рамёстваў беларускіх жанчын. Яны дасягалі ў гэтай справе здзіўляючага майстэрства".

І хаця ў альбоме аб'яднаны творы толькі мастакоў Мінска -- членаў секцыі мастацкага тэкстылю Саюза мастакоў Беларусі, якія працуюць на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце і Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва, "Сучасны габелен беларускіх мастакоў" дае ўсе падставы для знаёмства з гэтым найцікавейшым відам мастацтва.

Багатая тэматычна-жанравая палітра габеленаў, прадстаўленых у альбоме. Святлана Абрамовіч і Павел Бондар знаёмяць з творам "Купалле на Палессі". Выкананы з воўны і паўвоўны ў тэхніцы ручнога ткацтва габелен гэты ўражвае і сюжэтным раскрыццём тэмы. Як быццам сам язычніцкі дух сягае да нас, працінаючы душу і сэрца.

Увогуле матыў прыроды, яе ўшанавання, клопат за экалагічную чысціню навакольнай прасторы -- асноўны абсяг тэматычных росшукаў беларускіх габеленшчыкаў. Як прыклад -- і захапляючы, прыцягальны сваёй каляровай гамай габелен Нэлі Валынец "Жывая вада". Цікавую па тэхнічнаму вырашэнню працу прадстаўляе і Валянціна Маркавец-Бартлава. Яе "Полеэкалогія" (а матэрыялам мастачкі сталася не толькі воўна, а яшчэ і лён, скура, папера) настройвае на лад філасофскіх разваг, прымушае задумацца над многімі рэчамі, што фарміруюць нашу жыццёвую прастору, што вызначаюць месца чалавека ў прыродзе.

Усялякі від мастацтва ўражвае, становіцца выразна прыцягальным у першую чаргу сваім абвостраным, адкрытым характарам. Вось і габеленшчыкі колерамі і сюжэтамі перадаюць чалавечы боль. Асабліва выразна праяўляецца гэта ў працах Ніны Пілюзінай "Несуцішны боль", Тамары Чуглазавай "Мая зямля", Вольгі Дзёмкінай "Чорная быліна пра ненароджаных дзяцей Палесся".

Шматаблічнасць, шматграннасць сучаснага беларускага габелена захоплівае, прыцягвае. У гэтым відзе мастацтва найбольш выразна ўвасабляюцца першароднасць народнага духу, праяўляецца беларуская самасвядомасць. Агляд, прадстаўлены ў альбоме "Сучасны габелен беларускіх мастакоў", дае надзею на тое, што габелен адродзіцца, што ўслед за А. Кішчанкам, Г. Гаркуновым, іх маладзейшымі паплечнікамі пойдуць дзесяткі таленавітых майстроў, адраджаючы таямніцы старажытнага мастацтва, адшукваючы і ствараючы новыя творчыя прасцягі.

Барыс Крэпак напрыканцы свайго тэксту заўважае: "...альбом дазваляе выявіць агульную карціну сучаснага стану мастацтва беларускага габелену, тут работы мастакоў усіх пакаленняў, усе існуючыя формы дэкаратыўнага тэкстылю -- плоская, рэльефная, аб'ёмная, разнастайныя тэхнікі, шырокі арсенал пластычных сродкаў, якія даюць творцу магчымасць выказацца па мностnumberу складаных праблем быцця на самым высокім мастацкім узроўні". Дадаць да гэтага хацелася б вось што. Ужо сённяшні стан развіцця габелена патрабуе самай пільнай мастацтвазнаўчай увагі. Прыйшоў час, калі праз габелен можна было б і трэба было б прадстаўляць у свеце беларускае мастацтва і Беларусь.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**






Упершыню на сцэне Слонімскага беларускага драматычнага тэатра адбылася прэм'ера спектакля па п'есе французскага драматурга Клода Манье "Блэз". Спектакль мае назву "Жарты Парыжа". Пастаноўку ажыццявілі заслужаны работнік культуры Беларусі Мікалай Варвашэвіч і малады рэжысёр Таццяна Дубік.

"Жарты Парыжа" -- гэта вясёлая камедыя з элементамі эротыкі, якая расказвае пра маладога чалавека з правінцыі, што прыехаў у Парыж, каб знайсці сваё месца не толькі ў жыцці, але і ў мастацтве.

У галоўных ролях заняты артысты тэатра Васіль Сявец, Анжэліка Грэдка, Іна Ёрш, Віктар Шчарбакоў, Ніна Жукоўская і іншыя.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Жарты Парыжа".

Сяргей ЧЫГРЫН.

## КАЛЯДНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Каб трымацца нам парадку,
Не рабіць сабе загадку,
Гляну я на каляндар,
Як практычны гаспадар.

Месяц сьнежань дваццаць пяты --
Незадоўга будуць сьвяты;
Гэта дзень старых Каляд --
Зладзім іх на свой пагляд.

Прыйшло сьвята з Палестыны
Для збаўленьня нашай віны,
А мы п'ём і гуляем
На нішто не зважаем.

Не хачу быць я вынятак,
Таму жонцы даў задатак,
Каб купіла багацей,
Можа зайсьці хто з гасьцей.

Жонка майстар гэтай справы,
Накупляла рознай стравы,
Дзе і што, мне тут ня знаць,
І ніколі не згадаць.

Адно толькі што я знаю
І на гэта довад маю --
Быў індык тут, небарак,
Бо здалёк тырчэў гарляк.

Даўшы яму падгатоўку,
Пайшоў проста ў духоўку
І ляжаў там пяць гадзін,
Як ніколі, сам, адзін.

Яго жонка пільнавала,
Час ад часу палівала
І варочала ня раз,
Бо духоўка ёсьць на газ.

Пасьля доўгай смажаніны,
Замест тлустае сьвініны,
Зчырванеў ён, як той рак,
А чуцён быў добры смак.

Крышку меў ён выгляд строгі,
Угару задзёршы ногі,
Пара валіць, дзесь шыпіць
І так на стале ляжыць.

На яго глядзіць бутэлька,
[illegible] ў ёй чыстая гарэлка.
[illegible] стол села ўся сям'я:
Шчупла жонка, сын і я.

Я наліў усім гарэлкі,
Жонка падала талеркі,
А сын кажа: "Пі і еш,
[illegible] той сьвет не забярэш".

[illegible]ак гулялі мы Каляды
І былі даволі рады,
Як мінулы кожны год
З яго вязкай асалод.

Мы ёсьць пэўны, што і ў вас
Сьвяты выйшлі на паказ,
Кожны вясёл быў і рад...
І так да другіх Каляд.

Ю. В-скі.

*Лондан, сьнежань 1982 г.*

## СПОРТ



У спартыўным комплексе "Спартак" адбыўся дваццаты юбілейны турнір па цяжкай атлетыцы, прысвечаны памяці заслужанага майстра спорту СССР чэмпіёна Еўропы Яўгенія Новікава.

У гэтых спаборніцтвах прынялі ўдзел наймацнейшыя атлеты Беларусі, а таксама выступілі ветэраны цяжкай атлетыкі. Увага гледачоў была прыкавана, вядома, да цяжкай вагавой катэгорыі, дзе выступалі нашы волаты -- алімпійскі чэмпіён Леанід Тараненка, майстар спорту міжнароднага класа Аляксей Крушэвіч з Віцебска і двухразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Курловіч з Гродна, які выступаў па-за конкурсам. Пераможцам спаборніцтваў стаў Леанід Тараненка з сумай у двайбор'і 395 кілаграмаў. Аляксандр Курловіч паказаў лепшы вынік у двайбор'і, падняўшы ў рыўку штангу вагой 197,5 кілаграма і штурхнуўшы 245 кілаграмаў. Яго сума ў двайбор'і склала 442,5 кілаграма. Гэты ж вынік быў устаноўлены і на нядаўна прайшоўшым у Кітаі чэмпіянаце свету расіянінам Андрэем Чамеркіным.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр КУРЛОВІЧ у час спаборніцтваў.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА.

З ГІСТОРЫІ РАКІ ПРЫПЯЦЬ

# ЖЫЎ ТУТ НАРОД БЕЛАКУРЫ

Па звестках летапісу, у VIII--IX стагоддзях у басейне Дняпра пачалі сяліцца славяне, якія прыйшлі з-за Дуная. "Словене пришедше седоша по Днепру и нарекошася Полене, ...а друзии седоша межи Припятью и Двиною и нарекошася Дреговичи".

З падзей X--XII стагоддзяў вядома, што сярод рэк Дняпроўскай сістэмы вельмі ажыўленыя сувязі ажыццяўляліся па Прыпяці, таму што па гэтай рацэ ішоў шлях да Нёмана, Заходняга Буга, да Балтыкі. З X стагоддзя амаль усе прыпяцкія землі былі аб'яднаны ў Тураўскае княства, з якога ў XII стагоддзі выдзелілася Пінскае княства. З XIV стагоддзя басейн Прыпяці -- у складзе Вялікага Княства Літоўскага. На жаль, пра ўсё гэта надта мала паведамляецца ў летапісах. Таму перанясёмся ў больш познія стагоддзі.

Барон Сігізмунд Герберштэйн двойчы -- у 1516 і 1526 гадах -- быў пасланы імператарам Максімільянам у Польшчу і да вялікага князя маскоўскага Васілія з палітычнымі даручэннямі. Пасля гэтых паездак барон апублікаваў славутыя "Записки о Московии", у якіх апісвае Днепр і яго прытокі, сярод іх Прыпяць. Са старажытнейшых часоў адным з асноўных заняткаў насельніцтва Прыпяцкага Палесся была лоўля рыбы. У першай палове XVI стагоддзя польскі камісар Міхалон Літван (у 1544 годзе), які апісваў па даручэнню сейма замкі ў Літве і на Украіне, у сваім творы "О нравах татар, литовцев и московитян" пісаў: "...у рэках тут мноства ...вялікіх рыб. Па гэтай прычыне многія рэкі назыв[illegible]а залатымі, асабліва Прыпяць, [illegible]ая, калі ў пачатку сакавіка штогод збіраецца з крыніц свежая вада, напаўняецца такой колькасцю рыбы, што кап'ё, кінутае ў сярэдзіну, спыняецца цвёрда, як у зямлі, так густа рыбы...".

Н[illegible] старажытных картах Прыпяць [illegible]азвалася вельмі недакладна. У 1540 годзе С.Мюнстэрам была выдадзена карта Польшчы і суседніх тэрыторый, дзе паказана Прыпяць з яе не вельмі нават вялікімі прытокамі. На карце 1595 года, складзенай Г.Меркатарам, Прыпяць з прытокамі прадстаўлена ўжо больш дакладна. К канцу XVI стагоддзя адносіцца расійскі геаграфічны помнік пад загалоўкам "Книга Большому Чертежу, или Древняя карта Российского государства". Асобая ўвага ў гэтай "Кнізе" звернута на рэкі. Што тычыцца Дняпроўскага басейна, то дадзена падрабязнейшае ўказанне на ўсе рэкі з прытокамі. На карце 1645 года ўжо ў агульных рысах даецца дакладнае ўяўленне аб Прыпяці і яе прытоках. Дэталёвыя даследаванні Прыпяці і яе прытокаў былі ажыццёўлены ў 1873--1898 гадах у перыяд работы Заходняй экспедыцыі па асушэнню балот Палесся і ў сувязі з работамі Навігацыйнай камісіі Міністэрства шляхоў зносін пры будаўніцтве чыгункі Брэст -- Бранск і Вільня -- Роўна з перасячэннем іх у Лунінцы.

У канцы мінулага-пачатку цяперашняга стагоддзя па Прыпяці сплаўляліся буйныя партыі найкаштоўнейшых парод драўніны, прызначаныя для замежных фірм. Лес з дапамогай асобых накладак, ланцугоў і іншых прыстасаванняў счапляўся ў так званыя пасы, што мелі выгляд вузкіх доўгіх плытоў, якія буксіраваліся параходамі. Гэты лес праз Ясельду, Агінскі канал, Шчару, Нёман і Юрбурскую таможню дастаўляўся ў Мемель (Клайпеду) або праз Днепра-Бугскі канал, Мухавец, Заходні Буг, Віслу і Нешаўскую таможню ў Данцыг (Гданьск).

З 1850 года паміж Краменчугом і Пінскам рабіў рэйсы параход "Вісла", што належаў памешчыку Пуслоўскаму. У 1858 годзе ўзнікла "Таварыства параходства па Дняпры і яго прытоках". У 1892-ім было ўтворана другое такое параходства. Параходы гэтых таварыстваў плавалі па Прыпяці, Ясельдзе, Піне да Дняпроўска-Бугскага канала. Ёсць звесткі, што пасля сканчэння будаўніцтва чыгуначнага моста праз Прыпяць на лініі Лунінец—Роўна, непадалёку ад яго быў пабудаваны невялікі прычал, да якога іншы раз падыходзілі параходы і якім карысталіся жыхары бліжэйшых і нават далёкіх вёсак, што везлі на кірмаш свае тавары ці пакупкі з кірмашу. Але праіснаваў гэты прычал ля "Лунінецкага моста" нядоўга. На дарозе Давыд-Гарадок -- Лахва, што перасякае Прыпяць, у другой палове XIX стагоддзя дзейнічаў паром.

У гады грамадзянскай вайны па Прыпяці хадзілі караблі Прыпяцкай ваеннай флатыліі. У верасні 1919 года Прыпяцкая флатылія ўвайшла ў склад Дняпроўскай ваеннай флатыліі, караблі якой прымалі ўдзел у паходзе Чырвонай Арміі ў 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь. З кастрычніка 1939 года базай гэтай флатыліі стаў Пінск, а сама флатылія стала называцца Пінскай. У 1944 годзе яна ўдзельнічала ў вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

А вось яшчэ некалькі цікавых звестак аб Прыпяці. Клімат басейна Прыпяці за апошнія дванаццаць стагоддзяў змяніўся. У VIII-XIII стагоддзях ён быў цяплейшым, лічаць вучоныя. У XIII-XIV стагоддзях адбылося пахаладанне, якое працягвалася да сярэдзіны XIX стагоддзя -- яго адносяць да так званага малога ледніковага перыяду. У другой палове XIX стагоддзя адбываецца пацяпленне, а затым -- зноў пахаладанне, што працягваецца і ў нашы дні.

На тэрыторыі Прыпяцкага басейна бываюць землятрусы. Асабліва частыя яны былі, як сведчаць летапісы, у XII стагоддзі. Апошні ў 1986 годзе.

Агінскі канал, пабудаваны ў 1776-1783 гадах, злучае Прыпяць з Нёманам праз Ясельду і Шчару. Даўжыня яго 54 кіламетры.

Басейн Прыпяці -- класічны раён балотаў. У Лунінецкім раёне ў міжрэччы Цны і Лані размешчаны вялікі балотны масіў Грычын, вядомы далёка за межамі рэспублікі. Прыпяцкі басейн багаты карыснымі выкапнямі -- нафта, калійная і кухонная соль, газ, буры вугаль, сланцы, будаўнічы і абліцовачны камень (граніт і лабрадарыт). Мікашэвіцкае радовішча пастаўляе камень па многіх адрасах. Мікашэвіцкі порт злучаны каналам з Прыпяццю.

Прыпяць услаўлена ў народных песнях, пра яе складзены легенды і паданні.

Леў КОЛАСАЎ.

Заканчэнне. Пачатак у № 51.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 8297. Падпісана да друку 25.12.1995 г.